## ЗЬМЕСТ

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 17 ВЕРАСЕНЬ 1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

# У БОЙ ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЮ!

**Са ўсёй бальшавіцкай настойлівасьцю змагацца за выкананьне праграмы разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі.**

**Мацней агонь па кулаку, яго агентах, якія перашкаджаюць у выкананьні гэтай важнейшай задачы!**

## Выканаць пляны бальшавіцкай праграмы па жывёлагадоўлі.

### Разгортваньне жывёлагадоўлі — цэнтральная задача.

У жорсткай барацьбе з клясавым ворагам—кулаком, у барацьбе з яго прамымі агентамі—правымі і „левымі“ апартуністымі, партыя дабілася на базе саўгасаў і калгасаў пасьпяховага вырашэньня збожжавай проблемы. Усьлед за вырашэньнем збожжавай праблемы партыя паставіла на парадак дня вырашэньне праблемы буйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі на тых-жа асновах—на базе савецкіх і калектыўных гаспадарак.

У сваей адозьве да партыйных, савецкіх, гаспадарчых, зямельных і калгасных арганізацый, якая зьмешчана ў мінулым нумары нашай часопісі, „*Цэнтральны камітэт УсеКП(б) і Савет народных камісараў СССР лічаць работу па стварэньні і ўмацаваньні сацыялістычнага сэктара ў галіне жывёлагадоўлі—саўгасаў і калгасных таварных фэрм—цэнтральнай задачай бліжэйшага часу ў галіне сельскай гаспадаркі. 1931 і 1932 гады павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гады ў справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі*“.

### БССР—жывёлагадоўчы раён СССР.

БССР зьяўляецца адным з важнейшых раёнаў Савецкага саюзу ў разгортваньні

сацыялістычнай жывёлагадоўлі. У гэтай справе мы маем ужо некаторыя дасягненьні. Аграмаджаная жывёлагадоўля складае ўжо значнае стада. Так, буйнай рагатай жывёлы ў жывёлагадоўчых саўгасах ёсьць 40.000 штук, сьвіней—52.000 штук, у калгасна-таварных фэрмах ёсьць буйнай рагатай жывёлы—85.000 штук, з іх кароў—52.000, сьвіней—



71.000 шт., з іх сьвінаматак—41.000 шт. На 1 жніўня гэтага году жывёлагадоўчымі саўгасамі і малочна-калгаснымі таварнымі фэрмамі здадзена (прадана) дзяржаве 263.140 цэнтнэраў малака. Таварнасьць жывёлагадоўчых таварных фэрм і саўгасаў складае каля 65 процантаў.

Але дасягнутыя ў нас у БССР посьпехі ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі ў саўгасах і калгасных таварных фэрмах зусім не дастатковыя і не забясьпечваюць выкананьне пастаўленых XVI зьездам УсеКП(б) і XIII зьездам КП(б)Б задач.

## Лічбы бальшавіцкай праграмы.

На аснове адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, Цэнтральны камітэт КП(б)Б і Савет народных камісараў БССР вынесьлі спэцыяльную пастанову аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Гэтай пастановай ЦК і СНК намецілі практычны плян вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы ва ўмовах Савецкай Беларусі.

„*ЦК КП(б)Б і Саўнарком БССР абавязваюць усе РК КП(б)Б, райвыканкомы, трэсты і цэнтры калгасных таварных фэрм прыняць усе меры да таго, каб у 1931 г. забясьпечыць цьвёрды падмурак для далейшага шпаркага разьвіцьця сацыялістычнага сэктара жывёлагадоўлі з тым, каб і ў гэтай апошняй, пакуль яшчэ слаба аграмаджанай галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці, дабіцца сапраўднай перамогі, арганізаванай, мэханізаванай, заснаванай на апошніх дасягненьнях навукі гаспадаркі*“ (з пастановы ЦК і СНК).

Цэнтральны камітэт КП(б)Б і Саўнарком БССР вызначыў канкрэтныя лічбы разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Мы павінны давесьці агульнае стада ўсіх відаў жывёлы ў БССР да канца 1931 і 1932 г.:

| | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|
| Усяго коняй . . . . | 1.019.000 | 1.039.000 |
| З іх: | | |
| а) рабочых коняй . . . | 754.000 | 754.000 |
| б) маладняка ад 2 да 4 г. | 127.000 | 127.000 |
| в) „ „ 1 „ 2 г. | 62.000 | 62.000 |
| г) „ да 1 году. | 76.000 | 96.000 |
| Усяго буйнай рагатай жывёлы . . . . | 1.942.000 | 2.322.000 |
| З іх: | | |
| а) кароў. . . . . . | 1.200 000 | 1 204.000 |
| б) нецеляў ад 2 да 3 г. | 92 000 | 148.000 |
| в) маладняка ад 1 да 2 г. | 200.000 | 350.000 |
| г) цялят. . . . . . | 450.000 | 500.000 |
| Усяго сьвіней . . . | 2.710.000 | 3.800.000 |
| З іх: | | |
| а) сьвіней старэй 9 мес. | 887.000 | 1.100.000 |
| б) падсьвінкаў ад 4 да 9 мес. . . | 833.000 | 1.550.000 |
| в) парасят да 4 мес. . . | 1.000.000 | 1.150.000 |
| Дробнай жывёлы | | |
| а) авёц і коз . . . . . | 2.746.000 | 2.746.000 |
| б) птушак . . . . . | 3.500.000 | 5.000.000 |
| в) трусоў . . . . . | 50.000 | 150.000 |

Агульнае стада ў жывёлагадоўчых саўгасах і калгасных таварных фэрмах да канца 1931 г. і 1932 году мы павінны давесьці:

| Назва аб'яднаньняў | Агульнае стада ў 1931 г. (у тыс. штук) | | | | | | Агульнае стада ў 1932 г. (у тыс.. штук) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго буйнай рагатай жывёлы | З іх кароў | Усяго сьвіней | З іх сьвінаматак | Птушак матак | Трусоў матак | Усяго буйнай рагатай жывёлы | З іх кароў | Усяго сьвіней | З іх сьвінаматак | Птушак матак | Трусоў матак |
| Белсаўгастрэст | 38 | 20 | — | — | 34 | 12 | 52 | 27 | — | — | 85 | [illegible] |
| Маслатрэст | 6,45 | 4,20 | — | — | — | — | 15 | 10 | — | — | — | — |
| Сельгасаб'ядн. (Белкаапсаюз) | 15 | 12 | 35 | 6 | — | — | 21 | 15 | 90 | 14 | — | — |
| Сьвінаводтрэст | 16,20 | 8 | 175 | 50 | — | — | 20 | 12 | 375 | 75 | — | — |
| Інш. саўгасн. сыстэмы | 10 | 4,85 | — | — | — | — | 16 | 8 | — | — | — | — |
| Малакокалгасцэнтр | 150 | 78 | — | — | — | — | 300 | 150 | — | — | — | — |
| Сьвінаводкалгасцэнтр | — | — | 300 | 100 | — | — | — | — | 920 | 300 | — | — |
| Птушкакалгасцэнтр | — | — | — | — | 141 | 20 | — | — | — | — | 560 | [illegible] |
| Птушкасындыкат | — | — | — | — | — | 8 | — | — | — | — | — | 10 |
| Птушкапрадукт | — | — | — | — | 22 | — | — | — | — | — | 140 | — |

*Прыведзеныя вышэй лічбы зьяўляюцца баявой бальшавіцкай праграмай у разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, на выкананьне якой павінны быць мабілізаваны ўсе партыйныя, прафсаюзныя, савецкія, гаспадарчыя арганізацыі, уся калгасная сыстэма і шырокія масы саўгаскіх рабочых і калгасьнікаў.*

За выкананьне гэтай праграмы трэба зараз-жа ўзяцца са ўсёй бальшавіцкай настойлівасьцю.



## Камплектаваньне—важнейшае пытаньне разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Камплектаваньне стада жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм—важнейшае пытаньне ў разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Цэнтральны камітэт КП(б)Б і СНК БССР абавязалі Наркамснаб, Наркамзем, саўгастрэсты і цэнтры калгасных таварных фэрм правесьці камплектаваньне за лік загатовак да канца 1931 і 1932 г.:

| Назва аб'яднаньняў | Плян камплектаваньня 1931 г. | | | | Плян камплектаваньня 1932 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кароў | Нецеляў | Сьвінаматак | Птушак | Кароў | Нецеляў | Сьвінаматак | Птушак |
| Белсаўгастрэст | 7000 | — | — | 3500 | 9500 | — | — | 10000 |
| Маслатрэст | 2700 | 1550 | — | — | 5800 | 2000 | — | — |
| Сельгасаб'яднаньне (Белкаапсаюз) | 6000 | — | — | — | 3400 | — | — | — |
| Сьвінаводтрэст | 3000 | — | 25000 | — | 4000 | — | 10000 | — |
| Іншыя саўгас. сыстэмы | 1000 | — | — | — | 2500 | — | — | — |
| Малакокалгасцэнтр | 23000 | — | — | — | 40000 | — | — | — |
| Сьвінаводкалгасцэнтр | — | — | 57000 | — | — | — | 75000 | — |
| Птушкакалгасцэнтр | — | — | — | 80000 | — | — | — | 95000 |

З намечанага пляну за лік загатовак унутры калгасаў павінна быць набыта ў 1931 г. 45.000 сьвінаматак і ў 1932 годзе—75.000 сьвінаматак і 40.000 кароў.

*Акрамя гэтага камплектаваньне стада павінна праходзіць за лік вырашчваньня маладняка.* Па лініі калгасаў да канца 1931 году павінна быць вырашчана 26.500 штук цялят, у тым ліку ад ацёлу аграмаджаных кароў павінна быць вырашчана 83.000 штук цялят, за лік закупак у калгасьнікаў і дадатковага аграмаджаньня рагатай жывёлы—98.000 штук цялят і за лік перадачы Белмясам ад загатовак—84.000 шт. цялят. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прапанавалі: „Наркамзему і Калгасцэнтру арганізаваць вырашчваньне маладняка цялят шляхам арганізацыі ня менш 700 фэрм да канца гэтага году з тым, каб гэтыя фэрмы потым перарасьлі ў малочна-таварныя калгасныя фэрмы“.

З мэтай выкананьня пляну разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі ў БССР, ЦК і СНК прапанавалі Наркамзему і Калгасцэнтру „*правесьці ўзбуйненьне існуючых і арганізацыю новых саўгасаў, давядзеньне калгасных таварных фэрм да канца 1932 г.: малочных да 1500 фэрм, сьвінагадоўчых—да 800 фэрм, птушкаводных—да 305 фэрм, трусагадоўчых—да 30 фэрм, каняводчых—да 77 фэрм і інкубатарна-птушніцкіх станцый—да 6 станцый.*

## За мільён тон сілосных кармоў!

Разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі са ўсёй настойлівасьцю высоўвае ў лік першачарговых задач пытаньне аб стварэньні моцнай кармовай базы, штодзеннай рашучай барацьбы за выкананьне намечаных плянаў сіласаваньня. Аднак, ня гледзячы на дырэктыву партыі і ўраду і цэлы шэраг практычных паказаньняў з боку Калгасцэнтру—сіласаваньне кармоў праходзіць зусім нездавальняюча. Мы маем шэраг калгасаў, у якіх зусім яшчэ не распачыналі сіласаваньне.

Раённыя партарганізацыі, райвыканкомы, КСМ і ў першую чаргу райкалгассаюзы і праўленьні калгасаў—павінны прыняць самыя рашучыя меры да таго, каб пляны сіласаваньня былі выкананы

поўнасьцю. Рашучым чынам трэба зламаць апартуністычныя рагаткі на шляху сіласаваньня.

*Трэба ва што-б там ні стала загатовіць мільён тон сілосных кармоў, для саўгаснага і калгаснага стада. Забясьпечыць кожную карову 3-ма тонамі сілоснай масы на час стойлавага ўтрыманьня!*

## Да 15 лістапада выканаць пляны будаўніцтва.

Капітальнае будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах і калгасных таварных фэрмах—адзін з важнейшых вучасткаў разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. У галіне будаўніцтва таксама ёсьць буйнейшыя недахопы, намечаны плян капітальнага будаўніцтва выконваецца зусім нездавальняюча.

Для ліквідацыі ў гэтай галіне прарыў ЦК і СНК устанавілі тэрміны—15 лістапада. Тэрмін абмежаваны. Таму неабходна мабілізаваць усе сілы і маючыяся на гэтую патрэбу сродкі з тым, каб скончыць у саўгасах і калгасах будаўніцтва, неабходнае для разьмяшчэньня жывёлы. Пры будаўніцтве трэба рабіць максымальную замену дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў—матар'ямі мясцовага значэньня.

## Па-бальшавіцку ажыцьцявім дырэктывы партыі і ўраду.

Намечаная праграма сацыялістычнай жывёлагадоўлі вялікая, патрабуе шмат сіл і сродкаў для таго, каб выканаць яе.

Але няўхільнае правядзеньне ў жыцьцё адозвы ЦК УсеКП(б)Б і СНК БССР і пастановы ЦК КП(б) і СНК БССР, рашучая барацьба з кулацтвам і ліквідацыя яго, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, непрымірымая барацьба з агентамі кулацтва—правымі і „левымі“ апартуністымі—забясьпечыць нам посьпех вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі.

Шырокае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва—галоўнейшы рычаг у вырашэньні гэтай важнейшай задачы.



З кожным днём павялічваецца калгаснае стада.

# „Мы ня будзем апошнімі ў барацьбе за сацыялістычную жывёлагадоўлю“.

(Ліст-абавязацельствы спэцыялістаў Капыльскага раёну ў адказ на адозву ЦК УсеКП(б) і СНК СССР)

Прапрацаваўшы адозву ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, — мы, спэцыялісты (аграномы, заатэхнікі) Капыльскага раёну абвяшчаем сябе ўдарнікамі па правядзеньні ў жыцьцё гэтай адозвы.

Канкрэтна мы бярэм на сябе наступныя самаабавязацельствы:

1) На ўвесь час абвешчанага НКЗ БССР конкурсу на лепшую сьвінаводчую і малочную фэрмы кожны з нас бярэ адзін-два калгасы, у якіх дапамагае:

а) унядрэньню зьдзельшчыны, ацэненай у працаднёх, наладжваньню ўліку працы ў калгасах, ліквідацыі абязьлічкі на ўсіх вучастках работы, разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва;

б) наладжваньню лепшага кармленьня і догляду за жывёлай, павялічэньню прадукцыйнасьці яе і памяншэньню адходаў;

в) вывучэньню тэхнікі жывёлагадоўлі, для чаго ў кожным калгасе арганізаваць тэхнічныя гурткі па пытаньнях жывёлагадоўлі;

г) стварэньню моцнай кармовай базы (другі ўкос, выкананьне пляну сіласаваньня);

д) сваячасоваму сканчэньню будаўніцтва сьвінарнікаў, абор і ўкамплектаваньню патрэбнай колькасьцю жывёлы.

2) Абавязуемся ў кожным калгасе і ў паасобных брыгадах наладзіць сыстэматычнае выданьне насьценгазэт, стаўшы актыўнымі іх карэспандэнтамі. А таксама актыўна ўдзельнічаць як у раённай газэце, так і ў цэнтральнай, асьвятляючы лепшы вопыт барацьбы за сацыялістычную жывёлагадоўлю.

Адначасова выклікаем усіх спэцыялістых с-г, працуючых у саўгасах нашага раёну, таксама ўключыцца ў гэтую работу і вызначыць шэраг канкрэтных мерапрыемстваў для правядзеньня як у сваіх саўгасах, так і ў акаляючых калгасах.

Акрамя таго выклікаем на сацспаборніцтва ўсіх спэцыялістых-аграномаў, заатэхнікаў, тэхнікаў Койданаўскага, Слуцкага і Старадароскага раёнаў.

Мы, спэцыялісты Капыльшчыны, запэўняем партыю і яе ленінскі ЦК, што прыкладзем усе свае сілы для таго, каб поўнасьцю ажыцьцявіць дырэктывы партыі і ўраду па разьвіцьцю сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

**Ждановіч, Алешкевіч, Эдэль, Кананові, Атліванчык, Масл акоў, Хахлапоў, Ленковіч, Лабус, Барташэвіч, Казлоў, Кароль, Канарскі, Гаховіч.**

# Поўнасьцю выкарыстаць батву бульбы і караньплодаў для сілосу.

Батва бульбы і караньплодаў зьяўляецца адным з асноўных досыць каштоўных матар'ялаў зялёнай масы для сіласаваньня.

Да гэтага часу бульбоўнік і батва караньплодаў прадстаўлялі сабой адкіды палявой і гароднай гаспадаркі, якія звычайна ў сваёй масе гінулі дарэмна. З восені, пакуль батва яшчэ зялёная, яе скармліваюць жывёле, але большая яе частка застаецца ў полі, згнівае, заворваецца і ў корм жывёле ня ідзе. Між тым батва бульбы і караньплодаў прадстаўляе сабой вельмі каштоўны корм. Ураджай батвы з аднаго га бульбы ці караньплодаў дае, прыкладна, столькі-ж спажыўных матэрый, колькі дае ўраджай аднаго га сярэдняй сенажаці.

Калі ўлічыць, што бяз шкоды для здароўя жывёлы магчыма ёй скармліваць батвы ў зялёным выглядзе ў абмяжованым разьмеры (да 7-10 кгр. у дзень на 1 галову буйнай рагатай жывёлы) і што пэрыяд уборкі зялёнай батвы бульбы і караньплодаў таксама вельмі абмяжован, трэба адзначыць, што толькі прыкладна $1/3$ зялёнай масы батвы бульбы і караньплодаў могуць быць скарыстаны ў саўгасах і калгасах на скармліваньне жывёле ў зялёным выглядзе. Астатнія-ж $2/3$ зялёнай масы батвы могуць быць скарыстаны на корм жывёле толькі праз іх сіласаваньне.

У гэтым годзе ў зьвязку з значным недавыкананьнем у цэлым шэрагу калгасаў і саўгасаў пляну засева сілосных расьлін, скарыстаньне бульбоўніка і батвы караньплодаў на сілас мае асабліва важнае значэньне, паколькі яно можа і павінна забясьпечыць выкананьне і перавыкананьне пляну сіласаваньня.

Пасеўплошча пад бульбаю і карань-

плодамі ў гэтым годзе ў БССР складае 606.000 га, пры сярэднім ураджай батвы з 1 га бульбы ці караньплодаў у 4—5 тон зялёнай масы будзе атрымана ў гэтым годзе $2^1/_2$ ці 3 мільёна зялёнай масы батвы. З гэтай колькасьці батвы $^1/_3$ частку магчыма будзе скармліваць жывёле ў зялёным выглядзе, а астатнія $^2/_3$ ураджаю батвы трэба будзе скарыстаць на корм жывёле толькі праз яго сіласаваньне.

Трэба адзначыць, што батва бульбы ці караньплодаў, паражоная хваробай, для сіласаваньня нягодна. Адкінуўшы пэўны процант ураджаю батвы, які нельга будзе сіласаваць па адзначанай прычыне, магчыма вызначыць разьмер зялёнай масы батвы, якую можна будзе засіласаваць у гэтым годзе, прыкладна ў 1 мільён тон зялёнай масы.

Практыка сіласаваньня батвы бульбы і караньплоду ў мінулым годзе ў калгасах імя Саўнаркому і „Ленінскі шлях“, Менскага раёну і шмат у іншых калгасах БССР дала добрыя вынікі. Сіласаваная батва ахотна паядаецца жывёлай і ў выніку яе скармліваньня павялічваецца ўдой малака.

Сіласаваць батву трэба толькі халодным спосабам. Пры халодным сіласаваньні тэмпэратура ў сіласе не падымаецца вышэй 15-20° С. Для стварэньня добрых умоў для халоднага сіласаваньня неабходна прытрымлівацца наступных правіл:

1) Корм павінен рэзацца на кавалкі, даўжынёй у 1-3 сант., і добра ўтрамбоўвацца ў сіласнай устаноўцы.

2) Вільготнасьць сілоснага корму павінна быць у 65—70 проц.

3) Сілос павінен шчыльна закрывацца.

Падрыхтаваныя для сілосу расьліны павінны быць абавязкова чыстыя ад глебы, пяску і сьмецьця. Гэта асабліва важна ведаць пры сіласаваньні бульбоўніка і батвы караньплодаў, якія звычайна забруджаны зямлёй. Таму раіцца скасіць або зрэзаць бульбоўнік за некалькі дзён да выкапкі бульбы і адгрэсьці яго ад частак глебы і ад пяску. На ўраджаі клубняў зрэзаньне батвы не адаб'ецца, калі яно будзе ўтворана за 4-7 дзён да выкапкі бульбы. Батву караньплодаў пры выцярэбліваньні карэньняў з глебы трэба зараз-жа адразаць і атрэсьці ад частак глебы і пяску.

Батву бульбы і караньплодаў зразу жа пасьля аддзяленьня яе ад карэньняў трэба складваць у кучу на сухім месцы, так як раскіданая батва хутка забруджваецца. Уборка і возка батвы павінна быць арганізавана з разьлікам, каб хапіла зялёнай масы батвы на 1 дзень працы па загрузцы яе ў сілос, бо калі зялёная маса батвы зьбіраецца ў сілосную ўстаноўку за некалькі дзён працы, то яна у кучах праграваецца і будзе псавацца. Закладваць у сілос трэба толькі сьвежую, зялёную, сакавітую батву.

Сьвежая батва мае ў сябе 85-88 проц. вады і таму яе неабходна сіласаваць у сьмесі з саломенай сечкай ці мякінай, у такой прапорцыі, якая бы забясьпечыла патрэбную вільгаць у 65-70 проц. у сіласаваным корме, гэта значыць прыкладна на кожныя 100 кгр. батвы трэба дадаць 20-25 кгр. мякіны ці сечкі.

Пры ўборцы і возцы батвы бульбы ці караньплодаў трэба адначасова арганізаваць падвозку сечкі, мякіны ці іншых сухіх кармоў, якія пойдуць на сьмесь.

Для работы па ўборцы, возцы зялёнай масы і загрузцы яе ў сілосную ўстаноўку павінны быць арганізаваны спэцыяльныя брыгады, якія працуюць на асновах зьдзельшчыны. Разьмер брыгад па сіласаваньні вызначаецца аб'ёмам сілоснай устаноўкі і таксама вытворчасьцю рэжучай машыны, з такім разьлікам, каб скончыць загрузку сілоснай устаноўкі ў мінімальна кароткі тэрмін (сілоснай ямы ня больш як у 2-3 дні, а сілоснай вежы і траншэі ня больш як у 6-7 дзён).

К скармліваньню сіласаванай батвы магчыма прыступаць праз $1\text{-}1^1/_2$ м-ца пасьля яе загрузкі ў сілосную ўстаноўку.

Сілос з бульбоўніка, з батвы караньплодаў трэба задаваць жывёле ня больш як у палавінным памеры звычайнай дачы сілосу, гэта значыць 6-9 кгр. у суткі на 1 галаву буйнай рагатай жывёлы. (Маладняку буйнай рагатай жывёлы, сьвіньням і коням лепш зусім не даваць гэтага корму). Самую раздачу сілосу жывёле раіцца рабіць 2 разы ў суткі, роўнымі долямі днеўнага рацыёна. Розенблюм.

# Недапусьціць памылкі пры сіласаваньні.

Вынікі дасьледваньня сіласаваных кармоў сьведчаць аб тым, што сілос атрымаўся добрай якасьці. Але разам з гэтым некаторымі саўгасамі і калгасамі БССР быў дапушчаны ў мінулым годзе цэлы рад памылак у тэхніцы сіласаваньня, у выніку чаго добраякаснасьць сіласаванага корму пагоршылася, а ў паасобных выпадках як, напрыклад, у саўгасе Бел-сельтрэсту „Хоронуць", дзе закладка сіласу ў яму ёмкасьцю ў 50 тон праццягвалася да 15 дзён, перарывы пры сіласаваньні былі да 3-х і больш дзён, дрэнна ўтваралася трамбоўка сіласуемых расьлін, рэгуляваньне вільготнасьці сіласуемых расьлін адсутнічала, сьцены сіласнай ямы не ўвільгатняліся, шырыня ямы была значна больш глыбіні (у той час як глыбіня ямы павінна быць у паўтары разы болей шырыні),—усе гэтыя адмоўныя моманты ў практыцы сіласаваньня кармоў і рад іншых момантаў прывялі да таго, што сіласакорм у паказаным вышэй саўгасе атрымаўся дрэннай якасьці, жывёла такі сілос амаль што не паядала, корму многа прападала.

Акрамя прыведзенага вышэй факту няўдалага сіласаваньня, неабходна застанавіцца на асноўных недахопах сіласаваньня ў саўгасах і калгасах, праводзіўшых апошняе ў мінулым годзе.

Недахопы сіласаваньня наступныя:

1. Ямы і траншэі будаваліся зусім малай ёмкасьці, а дасьледваньнем устаноўлена, што чым меншая ёмкасьць сіласнай ямы ці траншэі, тым большы процант псуецца сіласакорму.

2. Шырыня сілосных ям рабілася большай, чым яе глыбіня, 4-хкутнай формы без закругленьня кутоў, нездавальняючая абліцоўка сьценак і блізасьць грунтовых вод.

3. Працяжнасьць загрузкі, даўгія перапынкі ў час загрузкі зялёнай масы, сьценкі ям і траншэй не ўвільгатняліся, як перад закладкай масы ў сілосную ўстаноўку, так і ў час закладкі. Сіласаваньне праводзілася без рэгуляваньня вільготнасьці сіласуемых расьлін, у той час, як да сухіх расьлін неабходна дабаўляць больш сырыя—вільготныя расьліны, давёўшы вільготнасьць сіласуемай масы да 65-70 проц. (наадварот пры сіласаваньні расьлін з вільготнасьцю больш чым 70 проц., неабходна дабаўляць сухія кармы, як, напрыклад, рэзаная салома, мякіна і інш.).

4. Значным недахопам сіласаваньня мінулага году зьяўлялася таксама дарагавізна пабудовы сілосных ям і траншэй і гатовага сіласакорму. Ня былі поўнасьцю скарыстаны мясцовыя матар'ялы на пабудову ям і траншэй. Каштоўнасьць пабудовы па 23-х сілосных ямах хісталася ад 50 кап. да 15 руб. за 1 куб. мэтр. Сабекаштоўнасьць гатовага сіласакорму па 21 яме абышлася ад 1 рубля да 10 руб. за 1 куб. мэтр.

5. Дрэннае ўкрыцьцё сілосных ям і траншэй, зусім мала капаліся канавы вакол ям для сьцёку вады.

6. Адсутнічаў нагляд за сілосам пасьля яго ўскрыцьця, у выніку чаго сіласакорм прамярзаў і значная частка яго гінула.

7. Закладка сілосу праводзілася зусім позна, калі, папершае, было ўпушчана шмат зялёнае масы, дзякуючы позьняму часу і, падругое, той матар'ял для сіласаваньня, які скарыстоўваўся шмат у якіх выпадках, быў прымарожаны, што, бязумоўна, таксама ў значнай ступені пагаршала якасьць сілосакорму.

Пры правядзеньні сілоснай кампаніі гэтага году неабходна ўсе пералічаныя вышэй недахопы ўлічыць, каб не паўтарыць іх пры правядзеньні сіласаваньня гэтага году і асабліва зьвярнуць увагу на наступнае:

1. Неабходна строга прытрымлівацца і кіравацца каляндарнымі тэрмінамі сіласаваньня, устаноўленымі Народным камісарыятам земляробства.

2. Абавязкова патрэбна змочваць сьценкі сілосных ям і траншэй да і ў час закладкі сілосу, рэгуляваць патрэбную вільготнасьць сіласуемых расьлін, рэзаць расьліны патрэбна ня больш 3-х сант.

3. Шчыльней трамбаваць зялёную масу пры загрузцы і асабліва каля сьцен, загрузку праводзіць адразу перапынкамі толькі на ноч, а яшчэ лепш без начных перапынкаў.

У выпадку-ж вымагальнай патрэбы зрабіць перапынак, неабходна абавязкова зялёную масу прыкрываць змочанаю мякінаю, або рэзкаю слоем у 20 см, увесь час падтрымліваючы гэту пакрышку ў вільготным становішчы.

4. Укрыцьцё рабіць больш шчыльна і перш за ўсё змочанай мякінай альбо рэзкай таўшчынёю (ушчыльненаю) 15 см., слой мяккай гліны 15 см. і слой зямлі ад 50 да 75 см. Ад замаразкаў зімою раіцца ўкрываць паверх усяго яшчэ саломаю.

5. Зьнішчыць падмаражваньне сілосу пасьля яго ўскрыцьця, усякі раз акуратна ўкрываючы пасьля кожнай выемкі.

Выключна важнае значэньне, якое набывае сіласаваньне кармоў у справе карэннай перабудовы жывёлагадоўлі і вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, абавязвае нас зрабіць самы рашучы ўпор на вучастак работы па падвядзеньні кармовай базы. Сіласаваньне кармоў становіцца важнейшым вагарам у справе вырашэньня кармовага пытаньня. Увесну 1931 г. шмат якія саўгасы і калгасы, цярпеўшыя бяскорміцу, значную дапамогу атрымалі ад сілосу, жывёла вышла ў поле нармальнай па ўпітанасьці і бяз зьніжэньня прадукцыйнасьці.

Трэба замацаваць і разьвіць такія тэмпы ў правядзеньні сіласаваньня, якія-б канчаткова зламалі коснасьць і руціну, існуючую пакуль што ў паасобных калгасьнікаў, і нават спэцыялістых сельскае гаспадаркі і зрабіць сіласаваньне кармоў дастаяньнем шматтысячнай масы калгасьнікаў і беднякоў і серадн'якоў—аднаасобнікаў—заўтрашніх калгасьнікаў.

Задачаю ўсіх арганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці на вёсцы шляхам паказа, растлумачэньняў і кансультацыі дапамагчы тэхніцы сіласаваньня кармоў, канчаткова разьбіць кулацкія плёткі пра сіласаваньне кармоў, арганізаваць сіласную кампанію і правесьці яе баявым парадкам, памятаючы, што сілос галоўны вагар у барацьбе за корм.

**Даніловіч.**



Убіраюць лён.

# УВАГА ПРЫЗЫВУ!

## Здаровага, клясава-вытрыманага, пісьменнага байца—Чырвонай арміі.

Рэвалюцыйны вайсковы савет саюзу на падставе закону аб абавязковай службе абвясьціў загад аб прызыве ў рады рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Прызыву падлягаюць грамадзяне нараджэньня 1909 г. і старэйшых узростаў, што карысталіся адсрочкамі і тэрмін якіх зышоў, прызыў пачнецца з 1 верасьня.

### Каго чакае армія ў свае рады

Прызыў для зьмены старэйшых, ужо прайшоўшых баявую і палітычную школу ў Чырвонай арміі байцоў—ёсьць важнейшая палітычная кампанія, якой вялічэзная павінна быць аддана ўвага савецкіх, партыйных, прафэсіянальных і грамадзкіх арганізацый. Чырвоная армія чакае здаровага, клясава-вытрыманага пісьменнага байца.

Ускладняюцца формы і мэтады вядзеньня сучаснага бою. Чырвоная армія на аснове індустрыялізацыі краіны аснашчаецца новай тэхнікай, якая ўскладняе баявыя дзеі, прад'яўляе да яго ўсё новыя і новыя запатрабаваньні. Чырвоная армія па сваіх баявых якасьцях і высокай сьвядомасьці байца ня можа мець сабе роўнай у варожым нам лягеры-арміі.

Высокія запатрабаваньні, прад'яўляемыя да Чырвонай арміі, патрабуюць да ўсёй пралетарскай грамадзкасьці краіны асаблівай увагі пры камплектаваньні яе радоў. Папаўненьне, якое ўліваецца на зьмену ўваходзячым з арміі байцам, павінна поўнасьцю адказваць тым вялікім запатрабаваньням, якія высоўвае жыцьцё перад рабоча-сялянскай Чырвонай арміяй.

Часу да прызыву засталося зусім мала. Гэтаму важнейшаму палітычнаму пытаньню мы павінны аддаць максымальную ўвагу. Пытаньне прызыву не павінна зьнімацца з парадку дню работы ўсіх нашых пралетарскіх арганізацый.

Чырвонай арміі патрэбен баец, які сьвядома разьбіраецца ў сучаснай складанай міжнароднай абстаноўцы і ў міжнароднай ролі Чырвонай арміі і яе інтэрнацыянальным характары.

### Узмацніць клясавы адбор.

Клясава-варожыя элемэнты будуць старацца пралезьці ў рады Чырвонай арміі для падрыву баявой моцы арміі. Для гэтага імі будуць скарыстаны ўсе мажлівасьці. Гэтага можа чакаць асабліва цяпер у час абвостранай клясавай барацьбы ў зьвязку з правадзімымі мерапрыемствамі партыі і савецкай улады па калектывізацыі і ліквідацыяй на гэтай аснове кулацтва як клясы. Клясава-варожыя нам элемэнты будуць дамагацца скарыстаць у сваіх мэтах Чырвоную армію, пралазіць у яе рады, каб весьці там сваю работу, распаўсюджваць свой уплыў.

Трэба пры камплектаваньні часьцей аднесьціся з усёй сур'ёзнасьцю да сацыяльна клясавага адбору. У гэтым кірунку павінна быць шырока разгорнута работа ўсіх грамадзкіх арганізацый, шырока скарыстаны самі прызыўнікі, з дапамогай якіх адпаведныя арганізацыі могуць правесьці добра работу па ізаляваньню ад пранікненьня ў рады Чырвонай арміі клясава-варожага нам элемэнту.

„Вывучэньне клясавага твару і палітычна-маральнага становішча прызыўнога кантынгэнту ва ўсіх стадыях работы па прызыву і выяўленьне ў працэсе гэтага вывучэньня клясава-варожых і маральна-няўстойлівых элемэнтаў, павінна быць пастаўлена на ўзровень, які гарантуе абсалютную немагчымасьць пранікненьня гэтых элемэнтаў у рады рабоча-сялянскай Чырвонай арміі"—вось задача, якая стаіць перад кіраўніцтвам, прызыўнымі камісіямі і спэцыяльнымі камісіямі, што ствараюцца для работ па адбору прызываемых.

### За пісьменнага байца

Рэвалюцыйны Вайсковы Савет нашай акругі зьвярнуўся з адозвай да камсамолу Беларусі аб правядзеньні шырокай кампаніі па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод прызыўнікаў. Камсамол Беларусі ў адказ на адозву распачаў і праводзіць сталую

задачу—ніводнага няпісьменнага байца на папаўненьне арміі. Гэтую работу, апрача камсамолу павінны праводзіць усе мясцовыя арганізацыі і асабліва навучальныя ўстановы і настаўнікі. На ліквідацыю няпісьменнасьці сярод прызыўнікоў павінна быць мабілізавана ўся пралетарская грамадзкасьць.

Пісьменны баец пасьпешна выканае свае абавязкі, ускладзеныя на яго задачы. Ён стала вывучыць вайскова-палітычную справу, асіліць усю складанасьць сучаснага бою і дасканала аўладае тэхнікай, якой аснашчаецца Чырвоная армія.

За пісьменнага, сьвядомага байца павінны змагацца мы з усёй бальшавіцкай упартасьцю.

**Пашлем фізычна здаровага байца**

Чырвонай арміі патрэбны фізычна моцны баец. Сучасныя складаныя формы бою патрабуюць вялікай рухомасьці і вынословасьці байца. Нам патрэбна здаровая зьмена. Пры камплектаваньні часьцей асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на стан здароўя і фізычную разьвітасьць кожнага прызыўніка. Ні ў якім разе мы не павінны дапускаць камплектаваньня арміі кадрамі, няздольнымі па сваім фізычным разьвіцьці выконваць тыя адказныя, складаныя задачы, што ўскладаюцца на байца.

Мы не павінны дапускаць і такіх выпадкаў, якія мелі месца пры мінулых прызывах, калі ў часьці накіроўваліся чырвонаармейцы, ня здольныя па свайму стану здароўя выконваць свае абавязкі і праз некаторы час павінны былі звaрачвацца, як нягодныя да вайсковай службы. Такія ненармальныя, злачынныя адносіны да камплектаваньня часьцей з боку некаторых прызыўных камісій выклікаюць лішнюю трату дзяржаўных сродкаў і парушаюць нармальны ход падрыхтоўкі часьцей.

**Азнаёміць прызыўніка з жыцьцём Чырвонай арміі**

У падрыхтоўчай рабоце па прызыву і сам прызыў павінен прайсьці пры шырокім і актыўным удзеле у гэтай важнай кампаніі арганізацыі Асоавіяхіму.

Ячэйкі Асоавіяхіму павінны разгарнуць шырокую растлумачальную работу сярод прызыўнікоў аб баявой вучобе, жыцьці і быту Чырвонай арміі. Трэба дабіцца, каб кожны прызыўнік ясна прадстаўляў, што з сябе ўяўляе Чырвоная армія, каб у яго ня склалася, ужо прышоўшы ў армію, адваротная думка.

Трэба дабіцца, каб баец не глядзеў на армію, як на школу, а каб ён ясна разумеў, што Чырвоная армія ёсьць баявая арганізацыя пралетарыяту—суровая вайскова-палітычная школа, якая рыхтуе сьвядомага, палітычна вытрыманага, разумеючага генэральную лінію партыі— байца-грамадзяніна, цьвёрда стаячага на варце сацыялістычнага будаўніцтва.

**Калгасы тварам да прызыву.**

Шырока разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва, шпаркі рост калгасаў карэнным чынам зьмяняюць сацыяльны стан прызыўніка. У калгасах ужо аб'яднана 55,9 проц.—13 мільёнаў 838,4 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. А гэта гаворыць за тое, што процант рабочых і калгасьнікаў сярод прызыўнікоў будзе пераважны. Калгасы павінны шчыльней падыйсьці да прызыву, скласьці ўсе ўмовы для лепшага яго правядзеньня.

Кожны калгасьнік павінен ясна зразумець, што Чырвоная армія, апрача падрыхтоўкі байцоў для абароны краіны, рыхтуе і тэхнічныя кадры для сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі— шофёраў, трактарыстых, матарыстых і рад іншых каштоўных работнікаў. Адсюль калгасы і саўгасы павінны прыкласьці ўсе стараньні да лепшай падрыхтоўкі прызыўнікоў для арміі.

**Прызыўнік павінен ведаць свае правы.**

Трэба шырока арганізаваць растлумачальную работу сярод прызыўнікоў. У кожным прадпрыемстве, клюбе, хацечытальні, калгасе павінен быць арганізаваны куток прызыўніка.

Растлумачальную работу павінны шырока правесьці ячэйкі Асоавіяхіму.

Прызыву мы павінны аддаць максымальную ўвагу. Трэба, каб кожная арганізацыя садзейнічала і дапамагала арганізаванаму правядзеньню прызыва, каб даць Чырвонай арміі ўсебакова падрыхтаванага, пісьменнага, сьвядомага, клясава-вытрыманага байца. **М. Дзярэча.**

# ВЫКАНАЦЬ 1350000 га пасеву азімых 1100000 га зяблевага ворыва У ТЭРМІН!

Памятаць, што раньнім пасевам азімых і зяблевай успашкай мы забясьпечым высокі ўраджай жыта і яравых у 1932 годзе.

## Правільна арганізаваць працу ў асеньнюю сяўбу і зяблевую ўспашку

Асноўная задача, якая стаіць зараз перад калгасамі, гэта — завяршэньне ўборкі, пасьпяховае правядзеньне асеньняй сяўбы і зяблевай успашкі. Выканаць і перавыканаць у тэрмін 1.350.000 га азімовага пасеву і 1.100.000 га зяблевага ворава. Выкананьне гэтай задачы цесна зьвязана з асноўнай задачай калгасаў: арганізацыйна-вытворчага замацаваньня гаспадаркі і арганізацыі новага калгаснага прыліву.

Рашаючае значэньне ў гэтай справе будзе мець арганізацыя працы ў калгасах, перавод усіх работ на зьдзельшчыну, сталы вучот якасьці і колькасьці працы кожнага калгасьніка, барацьбы з абязьлічкай, за правільную і рацыянальную расстаноўку калгасьнікаў у вытворчасьці, за бальшавіцкія тэмпы ў працы.

### Перамогу рашае зьдзельшчына

Каб павысіць ураджай, каб больш даць таварнай прадукцыі дзяржаве, а гэтым вызначаецца вытворчасьць гаспадаркі, калгасы павінны змагацца за максымальна-кароткія і раньнія тэрміны як пасеву, так і зяблевай успашкі. І выкананьне гэтай вялікай задачы будзе рашаць зьдзельшчына, бо толькі зьдзельшчына сапраўды падымае вытворчасьць калектыўнай працы і калектыўнай гаспадаркі.

У асеньнюю пасеўную і зяблевую кампанію не павінна ў калгасах мець месца работа, не пераведзеная на зьдзельшчыну.

Да гэтага часу ў гэтых адносінах калгасы яшчэ не зрабілі належнага пералому, так, у Лагойскім раёне на 1/VII 31 г. толькі 12,5 проц. калгасаў пераведзены на зьдзельшчыну па ўсіх работах, у 15,6 проц. праводзіцца часткова і ў астатніх 61,9 проц. зусім ня ўжываецца зьдзельшчына. Ня лепшае становішча ў Плешчаніцкім раёне, дзе толькі 15 проц. калгасаў перавялі работу на зьдзельшчыну, ацэненую ў працаднёх.

Ёсьць шмат калгасаў, дзе зьдзельшчына ўведзена фармальна, на справе-ж праводзіцца ўраўнілаўка.

Брыгада атрымоўвае нарад на зьдзельную працу, а ўнутры брыгады зарobленыя працадні дзеляцца пароўну, у незалежнасьці ад якасьці, колькасьці і характару работы. Атрымоўвае аднолькава і паганяльшчык, і аратай, і ўдарнік, і гультай.

Таму скажэньню палітычнай сутнасьці зьдзельшчыны неабходна даць рашучы, бальшавіцкі адпор, бо фармальнае ўвядзеньне зьдзельшчыны іграе на руку кулаку.

Сутнасьць і перавага зьдзельшчыны заключаюцца ў тым, што яна разьлічана на зацікаўленасьць кожнага паасобнага калгасьніка, больш і лепш зрабіць, так як ён ведае, што чым больш ён зробіць, тым больш ён атрымае. А гэта значыць, што выпрацоўку нельга дзяліць пароўну ўсім, а трэба ўлічваць колькасьць і якасьць працы кожнага паасобнага калгасьніка.

### Бяз вучоту няма зьдзельшчыны

Сапраўднае правядзеньне ў жыцьцё зьдзельшчыны немагчыма без дасканa-

лага вучоту выпрацоўкі кожнага калгасьніка. Няма вучоту працы—няма зьдзельшчыны, няма высока-прадукцыйнай, высока-таварнай гаспадаркі, няма высока-якаснай работы, і, нарэшце, няма буйнай калектыўнай вытворчасьці.

Вось прыклад, у калгасе „Новы шлях“, Плешчыніцкага раёну, у сувязі з тым, што дрэнна вёўся вучот працы кожнага калгасьніка, брыгадзір пераводзіў усю працу ў гадзіны і дзяліў пароўну ўсім калгасьнікам „праца-гадзіны“, чым зьдзельшчыну зьвёў на-нет.

У сувязі з дрэнным вучотам выпрацоўкі кожнага калгасьніка, за лік добрых працаўнікоў-ударнікаў атрымоўваюць працадні гультаі.

Дрэнны вучот працы скарыстоўваюць клясавыя ворагі ў мэтах барацьбы з калгасамі і калгаснай зьдзельшчынай. Таму на вучот працы неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Праўленьне калгасу павінна дабіцца, каб брыгадзіры, выдадзены ім нарад, запаўнялі з усімі падрабязнасьцямі, а калі ня зможа гэта зрабіць сам брыгадзір, неабходна яму ў дапамогу даць пісьменнага хлапца-камсамольца, вучотчыка, які-б ня менш 1 разу ў пяцідзёнку занасіў-бы выпрацоўку кожнага калгасьніка ў яго працоўную кніжку. Пасьля сканчэньня работы па нараду, вытвараецца прыём работы ад усёй брыгады (штодзеннай працы прымаецца брыгадзірам у канцы рабочага дня). Работу павінен прымаць загадчык данай галіны ў даным выпадку палявод.



Рамантуюцца с-г. прылады да сяўбы

(калгас імя Крупскай).

Пры прыёмцы работы асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на якаснае выкананьне работы брыгадай, бо дрэнная якасьць работы—біч калгаснай вытворчасьці,—факт, зрываючы таварнасьць і вытворчасьць гаспадаркі.

### Больш увагі брыгадзіру.

Вучот працы па нарадах з занясеньнем у працоўную кніжку выпрацоўкі кожнага асобнага калгасьніка, таксама арганізацыя працы ўнутры брыгады вылучае брыгадзіра, як кіраўніка і арганізатара, на першы плян. У большасьці працы брыгады, вучот і правядзеньне сапраўднай зьдзельшчыны залежыць ад брыгадзіра. Старшыня калгасу імя Валадарскага—Белаус расказвае: „Брыгадзірамі працуюць гэткія калгасьнікі, якія не спраўляюцца з сваімі заданьнямі, а таму дрэнны вучот працы і скажаецца зьдзельшчына. Праца вельмі часта запісваецца няправільна таму, што недастаткова ўлічвалася праца кожнага калгасьніка. Былі выпадкі, калі гультаі карысталіся працаю ўдарнікаў, ня было вядома кожнаму калгасьніку колькі ён штодзенна выпрацоўвае, што адбіваецца на вытворчасьці працы.

Гэтыя факты яшчэ раз падкрэсьліваюць неабходнасьць больш сур'ёзнага падыходу да падбору брыгадзіраў. Брыгадзірамі неабходна выдзяляць лепшых калгасьнікаў-ударнікаў, стварыць вакол іх грамадзкую думку і аўтарытэт. Неабходна прымаць усе захады да таго, каб брыгадзір больш чым астатнія члены

брыгады быў зацікаўлены ў вытворчасьці брыгады. Стымуляваць гэта можа матар'яльны бок. Аплата працы брыгадзіра павінна вытварацца ў залежнасьці ад працы ўсёй брыгады і пастаноўкі ў ёй вучоту.

**Выпрацоўка ўдарнікаў—норма для ўсіх.**

Да гэтага часу калгасамі зварачвалася недастатковая ўвага на нормы выпрацоўкі.



Ёсьць рад фактаў, калі нормы вельмі нізкія, не прадуманы і г. д. Між тым, як нормы выпрацоўкі маюць вялікае значэньне ў справе вытворчасьці працы, у справе барацьбы з кулацкімі імкненьнямі, і таму калгасы ў гэтых адносінах павінны зрабіць рашучы пералом.

Нормы выпрацоўкі трэба складаць па вытворчасьці лепшых калгасьнікаў-ударнікаў, іх вытворчасьць ёсьць норма для ўсіх.

Ні ў якім разе нормы выпрацоўкі не павінны быць нізкімі, лёгка перавыконваемымі горшымі працаўнікамі, бо гэткія нормы выпрацоўкі зьніжаюць каштоўнасьць працадня і гэтым льлюць ваду на млын клясавага ворага.

Таксама ні ў якім разе нельга выпрацоўваць нормы дутыя, нікім ня выконваемыя, бо яны зьніжаюць цікавасьць да працы ў калгасьнікаў.

**Да пачатку работы—ведаць яе аб'ём.**

Зьдзельшчына і вучот працы цесна зьвязаны з аб'ёмам кожнай работы. Немагчыма даць нарад ня ведаючы плошчы (аб'ёму) данай работы. Да таго часу, як даваць нарад на работу брыгадзе, неабходна дакладна абмерыць плошчу, на якой будзе праводзіцца праца.

Вопыт веснавой сяўбы паказаў, што тыя калгасы, дзе раней была абмерана плошча кожнага вучастку, сяўба скончана раней тэрміну, выкарыстоўваньне рабсілы і якасьць работы дасягнулі найвышэйшай ступені.

Калгас „Камінтэрн" Плешчаніцкага раёну ўсе вучасткі работы абмерыў своечасова, даў нарады брыгадзірам, у выніку чаго калгас скончыў да тэрміну сяўбу, узяў на буксір суседні калгас і дапамагаў саўгасу.

Абмер плошчы ёсьць складанае зьвяно зьдзельшчыны і вучоту ў праца-днёх.

**Мацней агонь па клясаваму ворагу.**

Пры правядзеньні асеньняй пасеўнай і зяблевай кампаніі трэба быць на варце. Клясавы вораг—кулак прымае ўсе заходы да таго, каб разбурыць калектыўную гаспадарку, сарваць увядзеньне зьдзельшчыны і вучот у працаднёх. У гэтай барацьбе з калгасамі і зьдзельшчынай кулак не адзінок, на яго працуюць правыя і „левыя" апартуністы, на яго працуе вялікадзяржаўны і мясьцовы шавінізм, з ім за адно гультаі-безгаспадарнікі, абязьлічка, дрэнная працдысцыпліна.

Каб выйсьці з асеньняй пасеўнай і зяблевай успашкі з новымі вялікімі перамогамі, трэба мацней, з усёй рашучасьцю біць па кулаку і яго агентах.

**Ф. Дзьмітрыеў.**



# Камунары, ударнікі, тэмпы.

(Дняпроўская камуна, Лоеўскага раёну).

11 гадзін увечары. Прайшоў—пракаціўся пыхкаючы трактар каля клюбу, зашумеў. З поля даляцелі бадзёрыя галасы камунарак і ўсё гэта зьлілося ў адно цэльнае,— мілагучную сымфонію ліпеньскага вечару.

Зьбіралася вытворчая нарада.

Аграном камуны тав. Горленка гаварыў:

— Я на нараду прышоў з такімі вытворчымі меркаваньнямі...

— Ну, давай хутчэй — уступаў нам ня трэба, — зазначае ўдарнік уборачнай кампаніі каваль-сьлесар тав. Дронін.

— Куды сьпяшаемся?—Хіба табе кузьня тут, — жартаўліва гаворыць камунар Сяргей.

— Спынеце размовы, таварышы! Давай, таварыш Горленка,— рашуча заяўляе старшыня камуны тав. Пінчук.

— Раней па нашаму рабочаму пляну савет камуны меркаваў так: убраць жыта, змалаціць жыта, распачаць уборку лёну, аўсу. Зараз зусім іншае. Баромэтр, ня гледзячы на тое, што тры тыдні стаіць гарачыня,—паказвае на зьменнасьць надвор'я. Пасевы пачынаюць гарэць. Лён пасьпявае раней тэрміну. Пара жаць авёс. Мы павінны апэрацыйна пераставіць рабочую сілу—забясьпечыць сваячасовае выкананьне гэтых работ. Перад намі баявая задача: за 6 — 5 рабочых дзён убраць 140 га аўсу і 32 га ільну. Малацьбу спыніць. Рэшту жыта зьвезьці і акуратна скласьці ў скірды.

З кутку, дзе сядзелі ўдарнікі - камунары—5 рабочых на жнявярках, 5 гэрояў бальшавіцкіх тэмпаў уборкі жыта, даляцеў ледзь чутны шэпт. 5 чалавек аб чымсьці гаварылі, калі старшыня нарады сказаў:

— Хто хоча гаварыць?

— Я!—першым адазваўся Іван Баранаў.

— Гавары!

— Дайце спраўныя машыны, дайце добра накормленых коняй, каб не прыставалі ў машынах, а мы сажнём за 5 дзён, за 4 дні ..

Дронін падышоў бліжэй да стала.

— Я хачу сказаць! Можна?

— Давай, гавары.

— За 6—5 дзён пажнём авёс. Машыны прывесьці ў спраўнасьць,—гаварыў Іван. Я заяўляю вытворчай нарадзе, што машыны ўсе будуць спраўны. Але разам з гэтым, рабочым на машынах трэба даць сёньня абяцаньне, што яны не здадуць да канца ўборкі бальшавіцкіх тэмпаў, даб'юцца зьнішчэньня прастояў машын.

— Таварышы,—гаворыць Пінчук,—мы зараз гаворым ці можа за 6—5 ударных дзён выканаць гэту работу, якая ў асноўным залежыць ад брыгады жнеяроў. Аб конях вам менш за ўсё трэба клапаціцца. Коні будуць даны такія ў машыны, ад якіх прастояў машын ня будзе.

— А мы з работай справімся,—цьвёрда заявіў старэйшы брыгадзір жнярак Васільчанка Мартын.

— Я ўношу прапанову, — гаворыць сакратар камсамольскаму колектыву т. Бордак,—для апэрацыйнасьці і жывой сувязі сьлесара-каваля з брыгадай жнярак прымацаваць да т. Droніна каня, на якім ён зможа ў любую мінуту выехаць у поле Дзяжурства аднаго каня дасьць магчымасьць яшчэ больш рацыянальна скарыстаць рабочы час.

— Правільна! Я загадваю даць каня ненагружанага работай, ён будзе стаяць на-чаку ў рабочы час жнярак,—запэўніў старшыня савету камуны.

— Хвілінку. Мне можна два слова?— пытае Дронін.

— Можна.

— Хлопцы давайце заключым сацдагавор на ўдарнае правядзеньне ўборкі.

— Давай, давай! Мы згодны,—адказала некалькі чалавек у адзін голас.

— У мяне будзе адзін пункт: машыны будуць спраўны, прастояў па маёй віне ня будзе, уночы, удзень, раніцой і ўвечары—у любы час, калі трэба, я буду рамантаваць машыны. Ну, а вы, хлопцы, як думаеце? Давайце вашы прапановы, прымайце выклік.

— Хіба мы можам здаваць бальшавіцкія тэмпы? Не. 140 га аўсу сажнем за 6—5 дзён — прымусім коняй, машыну і

і самі сябе норму 4 га перавыканаць. Будзем жаць, ня ўлічваючы часу.

— Давайце дамовімся,—пачаў Мартын, — я лічу мэтазгодным з практыкі перабудаваць нашу работу так: пачынаць працу не а 6-й гадзіне, а 4-й гадзіне раніцы выяжджаць у поле і работаць да 11 гадзіны дню; даць адпачынак коням у самую гарачынь 5 гадзін; пачынаць работу а 4 гадзіне дню і працаваць да позьняй ночы пры месяцы—поле ў нас роўнае, больш пільна будзем сачыць за ганяе драўляную пласьцінку — мяняе паламаны таргач. Дзьве гадзіны чалавек дакладна вывучае машыны і калі ўсё гатова чалавек садзіцца і з задавальненьнем закурвае, ён курыць, не сьпяшаючыся, з зацяжкай, на твары зьяўляецца вясёлая ўсьмешка. Чалавек, які зросься, зжыўся з машынамі; чалавек, які добра ведае кожную частку машыны; чалавек, які добра разумее, чаму яму трэба іменна так працаваць. Гэты чалавек ударнік другой бальшавіцкай вясны, ударнік



У калгасах жняяркі заменяць цяжкую працу жанчын.

машынамі коні ўночы і днём павінны даглядацца як мага лепш, коням павінен давацца авёс. У сацдагавор з Дронінам мы запішам два пункты: За 6—5 дзён пажаць авёс, дабіцца выпрацоўкі кожнай машынай 5 га.

Позна ўночы разыходзіліся па хатах. Дронін, ідучы з групай камунараў, гаварыў:

— Я вытрымаю ўсё. Пяражыў ня гэта. Былі цяжкія гадзіны. Цяпер працую замест 10 гадзін 12—16, а часамі 20 гадзін і напрацавацца ня можаш, бо бачыш, што ад працы ёсьць толк, што кожная хвіліна працы дае вынікі камуне, усёй дзяржаве.

---

2 гадзіны ночы.

На машынным двары з ліхтаром чалавек. Правярае машыны, змазвае, падкручвае гайкі, падкладвае шайбы, падуборачнай кампаніі, былы батрак, а сучасны камунар т. Дронін.

Дронін даражыць кожным цьвіком камуны, даражыць усім, што ёсьць у камуне, бо ён ведае, адчуў, перанёс на сваіх плячох цяжар абшарніцкага прыгнёту.

Дронін праверыў машыны, але не пашоў адпачываць, у яго знайшлася работа ў кузьні — ён рамантуе калёсы. Ён чакае пакуль прыдзе брыгада рабочых, пакуль запрагуць коняй і толькі тады, калі жняяркі спраўны, калі рабочыя не знаходзяць дэфэктаў, Дронін заспакоены.

Усе камунары задаволены ўдарнай работай Droніна. Рабочыя на жняярках, касілках гавораць:

— Каб ня Дронін, мы ня ведаем, якбы мы працавалі.

Для работы ў кузьні трэба 6 чалавек— працуе двое: Дронін і яго памочнік, малады хлапец камунар Іван Ліпскі.

— Жняяркі пашлі добра, — з поля перадаюць Дроніну.

Дронін з задавальненьнем жартаўліва адказвае:

— А, што ты хочаш, каб стаялі? Бач, ты яго! Хіба я ня ведаю, што яны працуюць.

Жніво праходзіць ударным парадкам. За тры дні зжалі 60 га аўсу.

Першыя вынікі, добрыя вынікі ўдарнай бальшавіцкай работы забясьпечваюць уборку аўсу з плошчы 140 га за 6—5 дзён.

Ударнікі на сваіх пастох. Ударнікі не здаюць бальшавіцкіх тэмпаў.

Станіслаў Іва.

## Калгасы Чырвона-Слабодчыны пасьпяхова скончылі ўборку ўраджаю.

Па раёну плян уборачнай кампаніі на 10 жніўня быў выканан на 90 проц. Калгасы раёну ўзялі бальшавіцкія тэмпы па ўборцы ўраджаю.

### У авангардзе баёў.

Калгас „Пуцілавец“ арганізаваўся вясной гэтага году з 17 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Сёньня калгас налічвае ўжо 96 гаспадарак на плошчы 450 га. Уборку сена калгас скончыў 17 ліпеня. Па пляну трэба было ўбраць 160 га, а калгас убраў 186 га раней тэрміну на 3 дні. Калгас першым скончыў уборку. Убрана 90 га жыта і 20 га пшаніцы. Убрана каля 80 га аўсу, 10 га ячменю і выцераблена 7 га лёну.

Калгас „Шлях Леніна“ скончыў уборку сенажаці ў тэрмін і поўнасьцю, убрана 300 га сенажаці. Азімыя культуры калгас убраў. Убрана 190 га жыта і пшаніцы. Калгас адразу-ж распачаў уборку яравых, убрана 35 га аўсу, 12 га ячменю і выцераблена 10 га лёну.

Калгас „Майскі прамень“, Нараджэньне сацыялізму“, „Чырвоная слабада“, „Войкава“ скончылі ўборку азімых культур. Зараз у разгары ўборка яравых культур. Калгасы прыступілі да абмалоту жыта і здачы (продажу яго дзяржаве).

### У чым са рэт перамогі.

Добрая арганізацыя працы ў калгасе, правільны ўлік яе, зьдзельшчына, сацспаборніцтва і ўдарніцтва—вось мэтады працы тых калгасаў, якія атрымалі перамогу на ўборачным фронце, якія ідуць у авангардзе.

У калгасе „Нараджэньне сацыялізму“ па пляну было скасіць палёгшай канюшыны 6 касцам 1 га за 1 працадзень, а гэтую норму выконвалі 4 касцы. У час уборкі ўраджаю замест таго, каб звозіць жыта 15 вазоў у 1 працадзень, звозілі калгасьнікі 20 вазоў.

Працадні ў гэтых калгасах запісваюцца кожную пяцідзёнку. Разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва. У калгасе „Пуцілавец“ брыгада возчыкаў жыта выклікала на сацспаборніцтва брыгады па абмалоту збожжа.

Заахвочваньне кальгасьнікаў працаваць на аснове зьдзельшчыны дало магчымасьць канчаць у тэрмін уборку ўраджаю.

Толькі дзякуючы правільнай арганізацыі працы, зьдзельшчыне за час уборачнай кампаніі ў раёне перавысіўся процант калектывізацыі з 27 да 33 процантаў.

Калгасы „Чырвоная зара“, „Пуцілавец“, „Будзённы“, „Нараджэньне сацыялізму“, „Шлях Леніна“, „Майскі прамень“ і іншыя адразу-ж распачалі асеньнюю сяўбу. Да сяўбы азімых таксама была праведзена належная падрыхтоўка. Пляны асеньняй сяўбы калгасамі Чырвонаслабодзкага раёну будуць выкананы поўнасьцю і ў тэрмін.

Алесь Курловіч.

# Зьдзельшчына ўзмацніла колгас.

(Полацкі раён).

Кожнаму ўжо вядома, што ад правільнай арганізацыі працы ў колгасе залежыць гаспадарчае ўзмацненьне яго. Асабліва гэта стала яскрава кожнаму калгасьніку з вопыту мінулага году, калі дзякуючы дрэннай арганізацыі працы, адсутнічаньню зьдзельшчыны, у некаторых калгасах засталося шмат кармоў і бульбы ня ўбранымі.

Такое становішча мела месца і ў колгасе „Труд" Варонацкага сельсавету (б. Ветрынскі раён). Мы мелі летась у сваім калгасе зусім дрэнную арганізацыю працы, зьдзельшчына, вядома, не прымянялася і таму шмат пожаня ня скошана, а зімою адчувалі востры недахоп кармоў.

Зусім інакш ідзе работа ў гэтым годзе. Калгас „Труд" з самай вясны яшчэ перайшоў на зьдзельшчыну. Былі выпрацаваны нормы па кожнай галіне работы, дзякуючы чаму веснавую пасеўкампанію калгас скончыў з посьпехам. Калгасьнікі абвясьцілі сабе ўдарнікамі 3-га рашаючага году пяцігодкі.

Падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю калгасам праведзена своечасова. Для таго, каб прывесьці ў гатоўнасьць уборачныя машыны, праўленьне калгасу вылучыла актыўнага калгасьніка-ударніка, на якога ўсклала адказнасьць за рамонт машын, майстэрні. Уборачныя машыны спраўнымі выступілі ў поле. Шмат адрамантавалі інвэнтару аднаасобнікам.

Сенаўборка ў калгасе прайшла ўдарным парадкам. 250 га сенажаці і канюшыны ўбрана да пачатку ўборкі жыта. Касьба праходзіла брыгадамі. Нормы выпрацоўкі перавыконваліся амаль кожнай брыгадай.

Дзякуючы засушлівай глебе ў калгасе ня была своечасова скончана праполка і вывазка гною. Тады па ініцыятыве ўдарнікаў быў аб'яўлен тыднёвік ліквідацыі прарыву. Першыя дні тыднёвіку паказалі ўдарныя тэмпы. Арганізаваныя брыгады па вывазцы гною за 2 дні выканалі нормы выпрацоўкі з перавыпаўненьнем. За дзень на адлегласьці паўтара кілёмэтра 15 аднаконных падвод вывазіла па 150 вазоў гною ў дзень, а на 1 кілёмэтр ў два разы больш.

У працоўныя кніжкі кожнаму калгасьніку спэцыяльным вучотчыкам запісваюцца кожныя 4—5 дзён выпрацаваныя ім працадні, дзякуючы гэтаму маецца зацікаўленасьць да працы кожнага калгасьніка і калгасьніцы.

Праўда, з улікам працы маецца шмат цяжкасьцяй таму, што паасобныя брыгадзіры мала пісьменныя і дзённы вучот ня могуць весьці дасканала па вызначачанай форме, але ў такіх выпадках рахункаводам выпрацавана наступная форма, якая потым правяраецца і прымаецца праўленьнем:

| Лік м-ца | Прозьвішча і імя | Якая пр-ца | Норма задан. | Што зроблена | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 20/VII | Калека Фёдар, Іваноў Пётр | Пахалі на зяб | 0,5 га | 10га | Працавалі 6 дзён |

Пасьля атрыманьня такой формы нараду, праверку робіць кіраўнік галіны гаспадаркі і потым запісвае ў працкніжку працадні кантора. Больш пісьменныя брыгадзіры самі вядуць вучот па ўстаноўленай для калгасаў форме.

Дзякуючы добра наладжанай працы ў калгасе, і гаспадарчага ўзмацненьня калгаснай гаспадаркі маецца прылiў у калгас. Калі з вясны калгас налічваў 70 гаспадарак, дык зараз мае 125 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. **Г. Г.**



Дзіцячыя яслі ў калгасе „Труды" (Полацкі р.)

Тарас Хадкевіч

# ПРАШАСТАЎ ЖНІВЕНЬ.

Прашастаў жнівень
жмуткам каласоў,
пазалаціў жытнёвае бязьмежжа,
апаясаўшы яркім паясом
палі, прыціхшыя ад сонечных
усьмешак.

Прашастаў жнівень,
пэўна-ж для таго,
каб днём гарачым,
радасным і яркім
плылі на наш квітнеючы загон
калгасныя вясёлыя жняяркі.

Каб жыта шалясьцела весялей
багатым залацістым ураджаем
і каб далёкі лес яшчэ дружней
калгасьніцы
напевам абуждалі...

Да вечара бадзёрай працы пыл
пакіне на руках загару глянец.
І складзеныя бабкамі снапы,
як вартавыя,
势 стануць на паляне.

Дні прыпару...
Па-ўдарнаму выходзь,
калгас, брыгадамі
на штурм уборкі,
рыхтуючы прасьцягамі шляхоў
пасланць з палёў чырвоныя абозы.
Атакаваць палі ўсе сілы кінь
энэргіяй, і дружнасьцю
заўзятай!
Бо ўжо чакае хлебнае рані
на станцыі высокі элеватар.

Хай потым хлеб
струменямі цячэ
да гарадоў, да цэнтраў індустрыі,
каб домны палыхалі гарачэй,
заводы ўздымаліся парывам.

І каб адтуль з вялікіх гарадоў,
як вынік сувязі і працы дбайнай,
ішлі к палям
няспыннай чарадой
жняяркі, трактары,
плугі, камбайны.

Шумі-ж і шастай,
жніўная зямля,
напевам каласоў бесьперабойна!..
Ударным тэмпам выканае плян
калгас на фронце
баявой уборкі.

5-га жніўня 1931 г.
Калгас „Новы Шлях".



Хай хлеб струменямі цячэ да гарадоў, да цэнтраў індустрыі...

# У тэрмін і бяз страт убярэм бульбу і караньплоды.

Надыходзіць уборка бульбы і караньплодаў. Мы павінны прыкласьці ўсе сілы, каб правесьці ўборку гэтых культур своечасова і арганізаваным чынам, таму што своечасовая і правільна арганізаваная ўборка бульбы і караньплодаў зьяўляецца адной з галоўных гаспадарча-палітычных задач.

Мінулы год паказаў, што пры дастатковай колькасьці рабочых рук шмат якія калгасы адставалі ў рабоце па ўборцы бульбы і караньплодаў толькі таму, што імі не прымянялася зьдзельшчына. Дзякуючы гэтаму мы мелі вялікі процант нявыхадаў на работу ў час уборачнай кампаніі, ня было наогул правільнай арганізацыі працы ў сэнсе найлепшага разьмяшчэньня калгасьнікаў на рабоце.

Уборка бульбы і караньплодаў зьяўляецца аднэй з цяжкіх работ. Гэта тлумачыцца тым, што ўборка прапашных культур ёсьць адна з апошніх работ пры ўборцы ўсяго ўраджаю. Акрамя таго, уборцы гэтых культур часта перашкаджае дрэннае асеньняе надвор'е (дажджы, замаразкі). Таму асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на правільную расстаноўку рабочай сілы з тым, каб своечасова ўбраць гэтыя культуры і без аніякіх страт.

Усе пытаньні, зьвязаныя з уборкай бульбы і караньплодаў, трэба абгаварыць на вытворчых нарадах, на агульных сходах калгасьнікаў і калгасьніц.

Яшчэ да пачатку ўборкі трэба таксама распрацаваць пытаньне аб здачы таварнай прадукцыі дзяржаве і каапэрацыйным арганізацыям такім чынам, каб асноўная маса бульбы і караньплодаў, падлягаючая здачы, была зьвезена на загатоўчыя базы непасрэдна з поля.

**Уборку бульбы трэба распачаць не пазьней 15 верасьня і скончыць усю работу па ўборцы ў 10 дзён.**

Прызнакам таго, што бульба ўжо пасьпела, зьяўляецца зацьвярдзелая скурка на бульбяніку. Спачатку трэба ўбраць больш раньнія гатункі, у якіх бульбянік начынае паступова жаўцець зьнізу і адмірае да пэрыяду пасьпяваньня. Бульбянік позьніх гатункаў бульбы, які захоўваецца зялёным да самых замаразкаў, неабходна перад уборкай скасіць і засіласаваць.



Бульбакапалкі, выпрацоўваемыя віцебскім заводам „Чырвоны мэталіст".

Арганізацыя працы пры ўборцы бульбы і караньплодаў павінна быць пабудавана выключна на аснове зьдзельшчыны з ацэнкай у працаднёх. Пры ўборцы бульбы асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на правільную расстаноўку брыгад, асабліва калі бульбу трэба ўбраць у найкарацейшы тэрмін.

Звычайна бульба павінна быць убрана ў 10-12 дзён. У гэты пэрыяд брыгада павінна мець наступны склад: 18 калгасьнікаў і калгасьніц, 4-6 коняй, 4 вазы (з якіх 2 вазы запасныя для насыпкі бульбы пры выбарцы). Такая брыгада павінна ўбраць 10 га. Напрыклад, у калгасе ёсьць 50 *га* бульбы, якую неабходна ўбраць і забуртаваць на працягу 10 дзён. Для гэтай работы неабходна арганізаваць 5 брыгад. Кожнай з гэтых брыгад вызначаецца заданьне і адводзіцца вучастак бульбы на ўвесь час уборкі ў 10 *га*, якая (брыгада) павінна ўбраць і забуртаваць з дадзенай ёй плошчы бульбу на працягу 10 дзён.

У кожнай брыгадзе працуе:

1) 1 плуг, 2 кані і 1 калгасьнік, які выворвае бульбу. Выворваньне 1 га бульбы ацэньваецца 1,2 працадні.



2) 10 калгасьніц або калгасьнікаў выбіраюць бульбу і сыплюць яе на воз. 1 *га* бульбы ацэньваецца пры выбарцы ў 10 працадзён пры ўраджаю—100 цэнтнэраў.

3) 2 калгасьнікі, 2 кані і 4 вазы падвозяць выбраную бульбу да месца захаваньня. За перавозку 40 цэнтнераў бульбы да месца захаваньня пры адлегласьці 1 кілёмэтр, налічваецца 1 працадзень.

4) 3 калгасьнікі або калгасьніцы сартуюць бульбу: на насеньне, корм, харчы, на здаровую, нягодную, дробную і вялікую. За сартоўку 50 цэнтнэраў бульбы налічваецца 1 працадзень.

5) 2 калгасьнікі адабраную здаровую бульбу ссыпаюць у бульбахавальнікі, альбо забуртоўваюць яе. За забуртоўваньне 50 цэнтнэраў налічваецца 1,2 працадні.

Найлепш хаваць бульбу ў спэцыяльных бульбахавальніках. Пры адсутнасьці бульбахавальнікаў, бульбу можна добра захаваць у буртах альбо ямах. Для ям трэба выбіраць найбольш сухое высокае месца, па магчымасьці пясчанае. Бульбу насыпаць трэба не да самага верху, а астаўляць пустое месца ў 20-25 см., якое закладваецца саломай. Яма закрываецца часткамі дошчак, тонкіх бровен, на якія насыпаецца зямля. Насып павінна заходзіць за краі ямы на 50-75 см. Таўшчыня насыпі ня менш як 70-80 см. У сьнежную зіму насып пакрываецца таўстым слоем сьнегу, а ў бясьнежную—насып трэба прыкрыць саломістым гноем.

Калі хаваць бульбу ў буртах, то неабходна выбраць месца такое, куды-б не сьцякала вада. Закладваць бурты можна рознай велічыні ў залежнасьці ад той колькасьці бульбы, якую трэба захаваць. Лепш будзе закладваць бурты ня больш, чым у 100—150 тон. Для таго, каб зрабіць бурту, трэба расчысьціць на паверхні зямлі месца, зрабіць паглыбленьне ў 10-15 см. Шырыня бурта павінна быць ад 2,5 да 3 мэтраў, а даўжыня 12—20 мэтраў у залежнасьці ад колькасьці бульбы, якую трэба захаваць у буртах.



Уборка бульбы ў калгасе імя Варашылова (Брагінскі р.)

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вэнтыляцыю пры закладцы ў бурт, унізе бурта кладуць вэнтыляцыйную трубу, зьбітую з дошак. Гэта труба павінна быць у дыямэтры 25-40 см. і ня выходзіць за край бурта, а павінна заканчвацца на 1 мэтр ад краю бурта. Ад ніжняй трубы трэба зрабіць праз кожныя 4-5 мэтраў драўляныя, стаячыя трубы для вэнтыляцыі. Гэтыя трубы павінны быць квадратныя і мець у дыямэтры 10-12 см. Пры наступленьні вялікіх марозаў, канцы труб затыкаюць саломай і ўкрываюць гноем.

Пасьля сканчэньня ўборкі бульбы, неабходна рабіць перапахваньне, для чаго арганізуюцца брыгады на кожныя 10 *га* ў складзе 15 калгасьнікаў, 30 коняй, 15 плугоў і 25 калгасьніц для падборкі бульбы. Для перавозкі бульбы ў нарыхтоўчыя пункты асобна вылучаецца адпаведная колькасьць калгасьнікаў і коняй.

Тэрмін уборкі караньплодаў залежыць ад тых-жа ўмоў, што і бульба. Калі няма пагрозы марозаў і надвор‘е сухое, цёп-

лае, тады можна ўбраць каранéплоды пазьней, бо самы моцны рост караньплодаў бывае тады, калі ўвосень пачынаюцца дажджы. Наогул **уборку караньплодаў трэба пачынаць не пазьней 25 верасьня. Скончыць трэба ўсю працу па ўборцы караньплодаў у 20 дзён.** Самую ўборку караньплодаў, як і бульбы, трэба праводзіць па магчымасьці ў сухое надвор'е.

Пры ўборцы караньплодаў трэба сачыць за тым, каб яны ня былі папсаваны лапатамі пры выкапцы. З караньплодаў батва зразаецца так, каб чарашкі лісьцяў засталіся на 1 см., не задзяваючы нажом карэньняў.

Для таго, каб не папсаваць карэньняў лепш будзе, калі зямлю прыстаўшую да караню не адрываць з моцнасьцю, бо зямля асыпаецца сама па сябе, калі карані абсохнуць. Пры ўборцы ў сырое дажджлівае надвор'е трэба караньплоды перад захоўваньнем абавязкова прасушыць.

У першую чаргу трэба ўбіраць кармовыя буракі і наогул усе тыя гатункі караньплодаў, карані якіх найбольш выдаюцца з зямлі. Апошняй можна выкапваць моркву, бо яна ня так чула да асеньніх замаразкаў.

Склад брыгады пры ўборцы караньплодаў з вучастку ў 14 *га* павінен быць з 0 калгасьнікаў, 6 коняй, 5 павозак 1 плуга. Гэта брыгада павінна скончыць усю ўборку, пачынаючы ад копкі да буртаваньня і здачы нарыхтоўчым арганізацыям.

Расстаноўка рабочай сілы і сродкаў вытворчасьці амаль штотакая-ж як і пры ўборцы бульбы:

1) 12 калгасьніц або калгасьнікаў выбіраюць караньплоды і сыплюць на вазы. Ацэнка 1 *га*—13 працадзён (пры ураджаі 200 цэнтнэраў).

2) 2 дарослых калгасьнікі, 1 падлетак з двума вазамі падвозяць караньплоды да месца хаваньня.

Ацэнка за перавозку такая-ж, як і пры бульбе (за перавозку 40 цэнт. налічваецца 1 працадзень).

3) 2 калгасьнікі альбо калгасьніцы сартуюць караньплоды; за сартоўку 60 цэнтн. караньплодаў налічваецца 1 працадзень.

4) 2 калгасьнікі адабраныя караньплоды ссыпаюць у бурты. За буртаваньне 60 цэнтнэраў налічваецца 1,2 працадня.

Захоўваюць караньплоды таксама як і бульбу ў ямах або буртах. Вышэйуказаныя брыгады па ўборцы бульбы і караньплодаў павінны быць так арганізаваны, каб усе работы ішлі пасьлядоўна адна за другой, не перашкаджаючы нічым у працы.

Памер і склад брыгад залежыць зусёды ад плошчы, агульнай колькасьці працоўных рук і тэрміну ўборкі (прыкладна, 20 чалавек у аднэй брыгадзе). На чале кожнай брыгады павінен стаяць брыгадзір, які адказвае за выкананьне вытворчага заданьня, атрыманага ад загадчыка галінай гаспадаркі.

**Рубільнік**

Ад рэдакцыі: Артыкул напісаны паводле рабочай праграмы па ўборцы бульбы.



Ударніцы калгасу імя Крупскай на працы ў полі.

# ЗАГАТОЎКАМ—БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ

**„Мабілізаваць усе сілы і сродкі на барацьбу за пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак“**

**(з пастановы ЦК КП(б)Б).**

## Выканаем датэрмінова загатоўкі.

Ня гледзячы на зусім выразныя дырэктывы партыі і ўраду, загатоўкі ўраджаю 1931 году праходзяць зусім нездавальняючы. На 10-е жніўня загатоўлена: збожжавых культур—859 тон (13,6 проц.) жнівеньскага пляну, сена 18236 тон (17,9 проц. гадавога пляну), раньняй бульбы 4743 тоны (ці 23,4 проц. па пляну).

У сваей пастанове аб ходзе загатовак ураджаю 1931 году „ЦК КП(б)Б адзначае, што загатоўчы апарат ня толькі ня стаў на чале актыўнасьці калгасаў і бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі, але-ж дэзарганізуе яе, адмаўляючыся ў радзе месц, з прычыны сваёй непадрыхтаванасьці, ад прыёму прадукцыі (Гарадок, Віцебск — сена, Менск — плодагароднiна і г. д.)“.

Цэнтральны Камітэт таксама адзначыў, што кампанія па загатоўцы культур ураджаю гэтага году застала партыйныя і савецкія арганізацыі, а таксама загатоўчы апарат зусім непадрыхтаванымі.

**Усю работу па загатоўках усіх культур ураджаю 1931 году трэба безадкладна перавесьці на баявыя рэйкі.**

Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны **„мабілізаваць усе сілы і сродкі на барацьбу за пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак на падставе шырокага разгортваньня масавай палітычнай работы сацспаборніцтва і ўдарніцтва“** (з пастановы ЦК КП(б)Б).

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тэрміновае давядзеньне цьвёрдых заданьняў па загатоўках да кулацка-заможнай часткі вёскі, трэба рашуча патрабаваць, каб гэтыя заданьні былі поўнасьцю і ў тэрмін выкананы. Ніякіх пратэрміновак у адносінах здачы прадуктаў кулацка-заможнымі гаспадаркамі—ня можа быць.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у сваёй пастанове **„патрабуе поўнага зьнішчэньня чаргі пры здачы прадуктаў на прыёмачныя пункты, поўнага і ўсебаковага абслугоўваньня калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас, якія выканаюць свае абавязкі перад пролетарскай дзяржавай“.** Адначасова з гэтым ЦК партыі **„папярэджвае, што праяўленьне бязьдзейнасьці і непаваротлівасьці, казённа-фармальных адносін да здатчыкаў прадукцыі, а таксама ўсякія жаданьні адкласьці абмалот і здачу збожжа да марозаў,—будзе разглядацца як праявы кулацкага ўплыву“.**

Загатоўкі—гэта важнейшая гаспадарча-палітычная кампанія. Партыйныя і савецкія арганізацыі і ўвесь загатоўчы апарат павінны перабудаваць зараз-жа сваю работу так, каб пляны загатовак былі ў тэрмін ня толькі выкананы, але і перавыкананы.



На ссыпным пункце. Разгрузка чырвонага абозу з калгасу „Новы Шлях“.

# З-пад малатарні на загатоўчы пункт.

(Полацкі раён).

Правільная арганізацыя працы на аснове перавода ўсіх работ на зьдзельшчыну з дасканалым улікам працы,— дала сёлета ў Чырвонамайскай камуне імя N-й стралковай дывізіі аграмадныя посьпехі ў рабоце.

Скончыўшы веснавую сяўбу, камунары адразу-ж пераключыліся на рэйкі ўборачнай кампаніі. Былі створаны ўдарныя брыгады касцоў і па ўборцы сена. Гэтыя брыгады сапраўды такі працавалі па ўдарнаму; да 5 жніўня было ўжо ўбрана з лугу ўсё сена і складзена ў стагі. Ніводнай пасмы сена не дапусьцілі камунары пад дождж.

— Корму сёлета для жывёлы хопіць па горла,—ганарыцца палявод камуны тав. Цэхановіч.

І сапраўды ёсьць чым ганарыцца. Такія вялізарныя стагі вырасьлі ў камуне. Акрамя гэтага будзе засіласавана каля 300 тон сілоснай масы, дзьве ямы ў 150 тон ужо засіласаваны.

А ўборка жыта!.. Гэта прыгожасьць адна было паглядзець, як руплівыя камунаркі, нібы мурашкі тыя, увіхаліся на полі! Ні хвіліны прастою жняярак. Камунаркі ў пробежку за вязаньнем снапоў.

— Гэта ў нас спаборніцтва ідзе,— каротка тлумачыць камунарка М.

— Трэба-ж убраць за такой добрай пагодай, а то сорамна будзе і страты, калі чуць-чаго пападзе пад дождж,— дадае другая.

Сілы вязальшчыц расстаўлены за жняяркамі так, што ні хвіліны нельга прапусьціць дарма, а прапусьціш—жняярка надыйдзе і, тады коні будуць есьці па зжатым збожжы. Таму камунаркі рупліва ўвіхаюцца каля работы, адначасова пільна сочуць за тым, каб якасьць вязаньня снапоў была добрая. Таму вось яны ня дужа-та пускаюцца ў размову, калі хто што-небудзь запытае ў іх.

І брыгады дабіліся свайго. Усё жыта было зжата ў некалькі дзён.

А пагода добрая, аж трашчыць, як гавораць камунары. Старшыня камуны таварыш Сарокен клапоціцца аб малацьбе.

— Трэба, таварышы, малаціць, а то, мабыць, пагода сапсуецца,—гаворыць ён брыгадзірам, расьціраючы ў руках буйны колас сухога жыта.

— Гэта правільна. Ня трэба ўпускаць час,—згаджаюцца камунары.

І на другі дзень на полі камуны гудзелі ўжо дзьве складаныя малатарні. Камунары з заўзятасьцю працавалі, бяз утомы ўвіхаліся каля машын пад пякучымі праменьнямі сонца. Кожны пільна сачыў ва выконваемай ім работай. Ды хіба ж можна працаваць абыяк, калі кожная хвіліна дарага, калі прастой аднаго чалавека можа адмоўна адбіцца на рабоце ўсей брыгады і машын.

— Хай-бы акуляры адзеў, прынесьлі от шофэрскія!—крыкнуў хтосьці падавальшчыку ў малатарню.

Малады хлапец з густа пакрытым пылам на твары і вачох адмоўна пакруціў галавою, а потым кінуў два словы, не адрываючы вачэй ад машыны, што прагна глытала важкія снапы жыта:

— Да перапынку!..

Загадчык аддзяленьня т. Катушонак П. з гонарам заяўляе, падкідваючы віламі ў стог салому:

— Учора за дзень намалацілі 350 пудоў.

— А калі скончыце ўсю малацьбу жыта?

— Дні на тры хопіць яшчэ. Вон тая наша,—паказвае Катушонак на суседнюю малатарню,—намалачвае ў дзень 700 пудоў.

Ён памаўчаў крыху, а потым дадаў:

— Думаем ноччу малаціць, каб не падпусьціць пад дождж.

І малатарні камуны да сканчэньня малацьбы ўдзень і ноччу абуджалі ўсю ваколіцу.

Малацьбу камунары скончылі 8 жніўня, на полі вырасьлі аграмадныя спрытна складзеныя скірды саломы, а 9-га даўгой істужкай рухаўся чырвоны абоз камуны ў Ветрыно на загатоўчы пункт. Гэты абоз здаў 500 пудоў жыта з новага ўраджаю.

С-ка.

# Плян загатовак выканаем.

(Менскі раён).

Калгас імя Крупскай адзін з лепшых калгасаў па раёну ў выкананьні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній. Гэты калгас пасьпяхова справіўся з веснавой сяўбой гэтага году, перавыканаўшы пляны сяўбы.

Па сканчэньні сяўбы калгас імя Крупскай адразу распачаў падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. Арганізаваны брыгады па ўборцы ўраджаю. Паміж брыгадамі заключаны ўмовы сацспаборніцтва на лепшае правядзеньне кожнай брыгадай уборкі. Усе работы пераведзены на зьдзельшчыну.

Уборка ўраджаю праходзіла ўдарным парадкам.

І толькі дзякуючы энтузіязму калгасьнікаў і ўмеламу правільнаму кіраўніцтву з боку праўленьня,—старшынёй якога адданы калгаснай гаспадарцы таварыш—калгас і на фронце ўборкі атрымаў перамогу. Усё ўжо ўбрана з поля акрамя бульбы і кораньплодаў.

Калгас імя Крупскай адразу-ж пасьля ўборкі распачаў малацьбу і приступіў да здачы лішак тварнага хлеба дзяржаве.

15 жніўня быў арганізаваны першы чырвоны абоз з хлебам. У гэты дзень было нейкае агульнае сьвята калгасу і калгасьнікаў. Кожны ганарыўся новым ураджаем.

— Хопіць і сабе і дзяржаве шмат дадзім,—заяўлялі з гонарам калгасьнікі.

— Плян загатовак выканаем і перавыканаем,—пацьвярджалі некаторыя.

Першы чырвоны абоз адвёз на загатоўчы пункт 200 пудоў жыта.

А. С.



У калгасьнікаў праграма
Загатовак ёсьць адна,
На базар збожжа—ні грама,
Спэкулянту—ні зярна.

Мы ідзём калгасным строем
На ссыппункты, як адзін.
Тэмпы ўзятыя патроім,
Плян сустрэчны мы дадзім.

# УЗОРЫ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПРАЦЫ.

**Дацы соцыялістычнай прамысловасьці высокай якасьці ільновалакно—адна з важнейшых задач калгасаў.**

## Прыклад бальшавіцкага змаганьня і перамог.

(Рэчыцкі раён).

З дзесяткаў сталыпінскіх хутароў і атрубаў, у рашучым змаганьні з кулацтвам—у 1929 годзе ў жніўні месяцы арганізаваўся калгас імя Калініна. Сорак дзьве батрацка-бядняцкія гаспадаркі першыя ў Артухоўскім сельсавеце ўступілі на шлях калектыўнай працы.

Сёньня калгас Калініна—адзін з лепшых узорных калгасаў Рэчыцкага раёну. На яго вопыце, на яго перамогах вучацца дзесяткі новых калектыўных гаспадарак.

**Як жывуць і працуюць калінінцы.**

Зараз калгас Калініна налічвае 250 гаспадарак. За час вясеньня-пасеўнай і ўборачнай кампаніі ў калгас уступіла 145 гаспадарак з беднякоў і серадняков Артухаўскага сельсавету.

Раскінуўшыся на плошчы 4000 гектараў зямлі, калгас для лепшага кіраўніцтва разьбіты на 5 вучасткаў. Кіраўніком і гаспадарнікам кожнага вучастку зьяўляецца сябра праўленьня калгасу.

Ня гледзячы на сваю раскіданасьць (хутары і атрубы), калгас пры ўмелым кіраўніцтве і расстаноўцы сіл па-бальшавіцку спраўляецца з вялізарнейшымі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі, якія паўстаюць перад ім. Увесну другой бальшавіцкай сяўбы калгас датэрмінова выканаў свой вялікі пасеўны плян, перавыканаўшы плянавыя заданьні як па тэхнічных і кармовых культурах, так і па збожжавых. У калгасе пасеяна 70 *га* ільну замест патрэбных па пляне 30, каноплі 6 *га* замест 5, вікі—110 *га* замест 70, кармовых буракоў—22 замест 20, бульбы 180 замест 160, аўса—226 замест 150, ячменю—38 замест 25 і г. д.

Для пашырэньня яравога кліну выкарыстаны ўсе няўгодзьдзі, раскарчоўка, выганы, пясковыя пустыры.

За ўдарнае бальшавіцкае правядзеньне веснавой сяўбы, калгас атрымаў першую прэмію на раённым конкурсе—пераходны сьцяг імя РК КП(б)Б і радыёпрыёмнік.

У час уборачнай кампаніі таксама калгасьнікі працавалі па-ўдарнаму. На дзесятае жніўня калгас закончыў уборку збожжавых і сенажаці. Убрана 1000 *га* сенакосу, 705 *га* канюшыны, 300 *га* жыта, жыта ўбрана за 9 дзён, 50 *га* азімай пшаніцы, 70 *га* лёну, лён убраны за 4 дні і г. д.

Для пасьпяховага правядзеньня ўборкі ў калгасе на час уборачнай кампаніі арганізаваны на 3-х вучастках яслі, ў якіх знаходзіцца 80-90 калгасных дзяцей штодзённа. Адчынена сталоўка, якая раніцай і ўвечары абслугоўвае калгасьнікаў на месцы, а ўдзень абслугоўвае на полі, праз паходныя кухні.

Уся праца па ўборцы ў калгасе пераведзена на зьдзельшчыну. Зьдзельшчына на ўборцы прымяняецца групавая і брыгадная. Брыгадная зьдзельшчына прымяняецца такім парадкам: адводзіцца вучастак (жніво, касьба), арганізоўваюцца брыгады, брыгада заключае дагавор з праўленьнем калгасу на заканчэньне работы ў вызначаны тэрмін і працуе самастойна. У брыгадах налічваецца па 15-20 чалавек. Брыгада ў сваю чаргу разьбіваецца на вучастку на групы па 4-5 чалавек па адбору. Групы заключаюць дагаворы паміж сабою. Выбіраюць групаводаў. Улік працы да сканчэньня работы вядуць групаводы. У канцы работы здаюць весткі брыгадзіру і брыгадзір



заносіць у працоўную кніжку кожнага калгасьніка.

Нормы выпрацоўкі кожнай групай і брыгадай перавыконваліся. Па касьбе згодна норм выпрацоўкі патрэбна 3 працадні на 1 га, групы Чыжэўскага Пятра, Сьвяцова К., Жыхара Івана выпрацоўвалі па 60-70 сотых га замест 33. Зграбаньне і складаньне ў копы згодна норм выпрацоўкі патрэбна на 1 га 3 чалавекі, па 33 сотых на чалавека. Гэтыя-ж групы выганялі па 70-80 сотых *га*.

Жніво рукамі. Патрэбна на 1 *га* — 12 жней. Брыгады Мельнікавай Хрысьціны, Волкавай Куліны, Чыжэўскай Каці зжыналі 1 *га* на 9 жней.

Вязка снапоў за жнейкай 4 жней на 1 *га*. Брыгада Усьціловіч Параські, Марчэнка Машы і Марчэнка Мары зьвязвалі ў 4 жнеі па 2 *га*.

Лён у калгасе вырваны за 4 дні. Была арганізавана ўся сіла калгасу. Працавалі і днём і ноччу. Калгас першы ў раёне 24 жніўня здаў дзяржаве 600 пудоў збожжа новага ўраджаю.

У гэтым годзе ў калгасе разгарнулася вялізарнейшае будаўніцтва. Будуецца сьвінарнік на 100 сьвінаматак, кароўнік на 100 галоў, стайня на 100 коняй.



Уборка Ільну ў калгасе „Уперад“ (Смалявіцкі р.)

Пабудаваны сьвіран на 160 тон збожжа, сталоўка, пабудаваны дом для канторы калгасу, кузьня, малочны пункт і клюб.

У калгасе створаны дзьве сталыя брыгады, якія ўвесь час і працуюць на будаўніцтве. Толькі ў час уборачнай дапамагалі на сенакосе. Брыгады Грыцкова і Панамарэнка заключылі дагавор з праўленьнем калгасу на заканчэньне будоўлі да 1 кастрычніка.

У калгасе ёсьць дзьве фэрмы МТФ і СТФ. Калгасьнікі, распрацаваўшы пастанову ЦК КП(б)Б і СНК аб разьвіцьці жывёлагадоўлі, абавязаліся закончыць укамплектаваньне сваіх фэрм да 1 верасьня. Укамплектаваньне праходзіць праз абагуленьне жывёлы сваіх калгасьнікаў.

СТФ, у якой павінны стаяць 200 сьвіней, на сёнешні дзень укамплектавана на 130 сьвінаматак старых і 20 маладых. МТФ патрэбна 400 малочных кароў, укамплектавана 148 малочнымі каровамі, цёлкамі звыш 2 год 127 штук, цёлак у 1½ гады—112 штук і ніжэй году 120 штук.

На СТФ праца па догляду пераведзена на зьдзельшчыну. На фэрме працуе 3 жанчыны. Усе сьвіньні лікам 150 штук разьбіты паміж трымя даглядчыцамі і кожная з іх адказвае за свае сьвіньні.

**Зубровіч.**

## „Юны камунар“ і „Камунар“ — прэміраваны.

*(Чавускі раён)*

Калгасы—„Юны камунар“ і „Камунар“ прэміраваны за датэрміновую ўборку ільну, якія ўбралі: першы—40 *га* да 14 жніўня і другі—65 *га* ільну да 15 жніўня.

*Калгасцэнтр БССР выдаў старшыням гэтых калгасаў па 100 рубл. і правёў праўленьням калгасаў па 200 рубл. кожнаму з гэтых калгасаў для прэміраваньня брыгадзіраў і ўдарнікаў, якія лепш праявілі сябе на рабоце ў часе ўборкі ільну.*

**А-к.**

# Калгас імя Чарвякова прэміраваны за датэрміновую ўборку ільну.

*(Мсьціслаўскі раён)*

Калгас імя Чарвякова, Мсьціслаўскага раёну, датэрмінова скончыў уборку 202 *га* ільну. Работа па ўборцы ільну была распачата 12 і скончана 25 жніўня. Ужо здана (продана) дзяржаве 17,5 тон (1.100 пудоў) ільнянога семя. Калгас добра падрыхтаваўся да апрацоўкі ільну. Дасягнуў гэтага калгас дзякуючы правільнай арганізацыі працы (усе віды работ у калгасе пераведзены на зьдзельшчыну, правільна арганізаваны ўлік працы). Нормы выпрацоўкі па ўборцы ільну былі павялічаны (10 чалавек на 1 *га*, а ўдарных брыгад 6-7 чалавек на 1 *га*).

*Калгасцэнтр БССР прэміраваў гэты калгас. Старшыні калгасу тав. Сьцефановічу выдадзена 125 рубл. і для прэміраваньня брыгадзіраў і калгасьнікаў за ўдарную работу па ўборцы ільну выдадзена 300 рубл.*

Акрамя гэтага выдадзена ў распараджэньне калгасу 50 хусьцінак для прэміраваньня лепшых ударніц-калгасьніц, праявіўшых сябе па ўборцы ільну. Выдадзена за рахунак Калгасцэнтру 50 скрынак цьвікоў для сканчэньня пабудовы сьвінарнікаў і мэханізававага кормазапарніка.

**П-ч.**

## БІБЛІЯГРАФІЯ.

1) **Аб прыкладным разьмеркаваньні даходаў у калгасах у 1931 г.** тыраж 100.000, ц. 2 к. (лістоўка-плякат)

2) **Галенчанка.**—Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю у колгасах. 1931 г., тыраж 35.000, ц. 20 кап.

3) **Улік у колгасах** (зборнік) 1931 г., тыраж 25.000, ц. 20 кап.

Прыкладнае разьмеркаваньне зьяўляецца пастановай НКЗ і Колгасцэнтру СССР і зацьверджана саюзным Саўнаркомам.

У першым разьдзеле паказаны недахопы мінулага году. Каб добра разьмеркаваць у гэтым годзе даход, патрэбны належны ўлік працы і авансаў. Рэвізійныя камісіі колгасаў да 15 жніўня павінны былі праверыць гэты бок працы колгасаў.

У трэцім, чацьвертым, пятым, шостым і сёмым разьдзелах паказаны дырэктывы як трэба разьмяркоўваць збожжа, іншыя продукты, кармы і грашовыя сродкі і ў якія тэрміны. Канчатковы разьлік з колгасьнікамі павінен быць не пазьней 15 студзеня 1932 г. Новы парадак павінен быць вядомы кожнаму колгасьніку, кожнай колгасьніцы.

Кніжка **Галенчанка** ставіць задачай крытычна разабраць вопыт мінулага году і паказаць, як трэ' разьмяркоўваць у гэтым годзе. Аўтарам шырока скарыстаны матэрыялы мейсц, напісана папулярна. Недахопам зьяўляецца тое, што некаторыя разьдзелы (VI, VII, VIII, XIII, XV) патрабуюць у адпаведных мяйсцох папраўак, згодна прыкладнага разьмеркаваньня даходаў, зацьверджанага Саўнаркомам (гл. лістоўку-плякат), бо напісана і выдадзена кніжка раней апублікаваньня новага парадку разьмеркаваньня.

Апошняя кніжка (зборнік) складзены на падставе асноўных палажэньняў, зацьверджаных Саюзным Наркомземам і Колгасцэнтрам. Яна раіцца, як дапаможнік для ўсіх колгасаў. Зьмест яе: задачы ўліку, улік складу колгасу, зямельных угодзьдзяў, маёмасьці, прадуктаў, і матэрыялаў, фінансавай дзейнасьці, улік вытворчасьці, працы, даходаў.

Кніжка неабходна пры вядзеньні рахункаводзтва ў колгасах.

**Т.**

1) **Ф. Галевіус.** За бальшавіцкую ўборку ўраджая. 1931 г., тыраж 8000, ст. 88, цана 17 кап.

2) **Іскроў, Сомава, Енш і Мінаева.** Выканаем пляны па сілосе. 1931 г., тыраж 3000, ст. 52, цана 10 кап.

3) Кароткая інструкцыя па тэхніцы сіласаваньня. 1931 г., тыраж 35.000, ст. 16, ц. 5 кап.

4) **Г. Шустоў.** Як арганізаваць зьдзельныя работы ў колгасах. 1931 г., тыраж 7000, стар. 64, ц. 15 кап.

5) За правільны колгасны ўлік. 1931 г. тыраж 25000, стар. 32, ц. 12 к.

Усе брошуры выданьня с/г сэктару БДВ. **Першая**—падводзіць вынікі сяўбы, паказвае організацыю ўборкі, дае ўстаноўкі, як разьмяркоўваць ураджай і ставіць задачы асеньняй сяўбы і падняцьця на зяб. Маюцца дадаткі: рэзолюцыі пленуму ЦК УсеКП(б) ад 12 чэрвеня 1931 г. і пастанова ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

**Другая** напісана брыгадай навуковых працаўнікаў зональнай станцыі малочнай гаспадаркі (Горкі). Яе зьмест: значэньне сіласаваньня і вынікі за 1930 г. і тэхніка сіласаваньня.

**Трэцяя** — інструкцыя — вучыць, як сіласаваць кармы.

**У апошніх дзьвёх** паказваецца, як праводзіць зьдзельшчыну і ўлік працы ў колгасах.

Напісаны кніжкі ясна, чотка, зразумела. У кніжцы Шустова маецца сьпіс кніг да ўборачнай кампаніі, а ў брошуры Іскроў і др. сьпіс брошур па сілосу, якія неабходна чытаць кожнаму колгасьніку.

Кніжкі заслугоўваюць самага шырокага распаўсюджваньня.

**Т. Ляўша.**

## Распаўсюдзім сваю часопісь.

„Шляхі калектывізацыі“ зьяўляюцца патрэбнай часопісьсю для кожнага калгасу і калгасьніка.

Трэба сказаць, што часопісь вельмі правільна адбівае на сваіх старонках жыцьцё і працу калгасаў, дае належныя кіруючыя артыкулы. Я часопісь выпісаў на 3 месяцы, атрымаў першы нумар, прачытаў і знайшоў у ім усё, што патрэбна для калгасьніка. Я, як селькор ударнік і кіраўнік Журавецкай ударнай селькораўскай брыгады, абяцаю штодзённа праводзіць работу па распаўсюджаньні часопісі і выклікаю на гэта ўсіх селькораў нашага Магілеўскага раёну:

**Кіраўнік селькораўскай ударнай брыгады ПАРФІЯНОВІЧ.**

Калгас „Ударнік“.

## Выклікаю на спаборніцтва па распаўсюджаньні часопісі.

Прывёўшы гутарку аб значэньні часопісу „Шляхі калектывізацыі“ сярод калгасьнікаў калгасу „Пераможац“ і аднаасобнікаў вёскі Турск, я сабраў 25 падпісчыкаў на „Шляхі калектывізацыі“ тэрмінам ня менш як на 6 месяцаў.

Абавязуюся да канца 1931 году завербаваць яшчэ 75 падпісчыкаў і выклікаю на сацспаборніцтва наступных селькораў:

**Гура**—Полацкі раён, **Шумілава**—Шклоўскі раён, **Герасіменко**—Ельскі раён і **Чарняўскага**—Рагачоўскі раён.

**Брыгадзір часопісі „Шляхі калектызацыі“ Я. М. Савіцкі**

## Адказы на запытаньні:

**Запытаньне:** — Як залічваць акцыі Трактарацэнтру, унасімыя аднаасобнікамі пры ўступленьні ў калгас?

**Адказ:** — Унасімыя аднаасобнікамі акцыі Трактарацэнтру, пры ўступленьні ў калгас, могуць залічвацца ў лік уступных узносаў гэтых калгасьнікаў.

**Запытаньне:** —Які парадак адлічэньня ў непадзельны і іншыя грамадзкія фонды калгасу?

**Адказ:** —Устанаўліваецца наступны парадак адлічэньняў у іншыя грамадзкія фонды: з агульнага прыбытку калгасу робяцца адлічэньні насеннага, страхавога, фуражнага, запаснага фуражнага фондаў, на ўплату падатку, страхоўкі, плацяжоў па крэдыту 1931 году. Пасьля паказаных адлічэньняў з астаўшыхся сум даходу праводзяцца адлічэньні ў непадзельны і іншыя грамадзкія фонды.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Парфіяновічу** (Магілеўскі раён)—Заметка „Па ўдарнаму правядзем уборку“—ня пойдзе. Спазьнілася. Астатні матар'ял надрукуем.

**Вішнеўскаму М.** (Сьмілавіцкі раён)—Допіс Ваш „Чаму няма прыліву ў калгасы па Карзуноўскаму сельсавету“ перададзены ў газэту „Калгасьнік Беларусі“. Пішэце як ідуць загатоўкі, аб жывёлагадоўлі у колгасе і аб уборцы калгасамі бульбы і караньплодаў.

**Яроменку М.** (Полацкі раён)—Ваш допіс аб падрыхтоўцы да ўборкі спазьніўся—ня пойдзе.

**Савіцкаму Я.** (Рагачоўскі раён)—Допіс „Уборка ўдарнымі тэмпамі“ ня пойдзе. Аб гэтым ужо друкавалася ў часопісі. Пра будаўніцтва ільназаводаў перададзена ў „Калгасьнік Беларусі“. Астатнія вашы допісы будуць надрукаваны ў часопісі.

**Гаўруковічу і Равінскаму** (Уваравіцкі раён)—Адказ на ваша запытаньне пасланы поштаю.

**Хадарэнку П.** (Лёзьненскі раён)—Ваш допіс пад загалоўкам „Патрэбен пералом у культурна-асьветнай працы“ ня будзе надрукаваны ў часопісі, перададзены ў газэту „Калгасьнік Беларусі“. Асьвятляйце на старонках нашай газэты жыцьцё і працу калгасаў і саўгасаў.

**Усім селькорам-калгасьнікам:**—Рэдакцыя часопісі чакае ад Вас матар'ялу на наступныя тэмы: як ідзе ўборка яравых, асеньняя сяўба і ўспашка на зяб, як ідуць загатоўкі. Шырокі асьвятляйце пытаньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі, што робіцца на мясцох па правядзеньні ў жыцьцё адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР і пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР па пытаньні разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. З дасылкай матар'ялаў не пазьнецеся для таго, каб яны ня гублялі сваю вартасьць.

Адказныя рэдактары: С. Міцькоў, Н. Міхайлаў.

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

часопіс **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | —24 нумары. | . . 3 руб. | |
| „ 6 мес. | —12 „ | . . 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 „ | . . — — | 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 „ | . . — — | 25 „ |

Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу

Адрас рэдакцыі часопісу:
*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1796. Галоўлітбел № 2091.

